ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ



ОРГАН
КУЛЬТПРОПУ
ЦККП/б/Б

ЧЭРВЕНЬ
№ 1
ДВБ 1932
ПАРТМАССЭКТАР



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН
КУЛЬТПРОПУ
ЦК КП/б/Б

ЧЭРВЕНЬ

№ 1

ДВБ 1932
ПАРТМАССЭКТАР



*ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!*






# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

№ 1

ЧЭРВЕНЬ 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР
МЕНСК 1932

## АД РЭДАКЦЫІ

З чэрвеня м-ца г./г. будзе рэгулярна выходзіць масавы паўтарадэкадны журнал „За ленінскую вучобу“ орган Культпропу ЦК КП(б)Б. Журнал „За ленінскую вучобу“ ставіць перад сабой наступныя задачы:

1. Весьці барацьбу за аўладаньне марксысцка-ленінскай тэорыяй членамі і кандыдатамі партыі, комсамольцамі і шырокім актывам рабочых і колгасьнікаў, за ўзбраеньне іх праз бальшавіцкую прапаганду гэтай тэорыяй, якая мобілізуе пролетарыят, колгаснае сялянства і „заўтрашніх колгасьнікаў“ на актыўны, сьвядомы ўдзел у пабудове бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва. Журнал „За ленінскую вучобу“ ставіць сваёй задачай дапамагчы выхоўваньню ў духу інтэрнацыянальнай солідарнасьці, аўладаньню культурай нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьмесьце; зразуменьню ленінскай нацыянальнай політыкі. Журнал „За ленінскую вучобу“ ставіць сваёй мэтай барацьбу супроць скажэньняў марксысцка-ленінскай тэорыі, супроць ухілаў ад генэральнай лініі партыі і прымірэнцтва да іх. Супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі, „левага“ опортунізму, супроць трацкізму—перадавога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі і супроць працягваньня трацкісцкай контрабанды. Барацьба на два фронты,—за рэалізацыю ўказаньняў правадыра партыі т. Сталіна, за популярызацыю і прасоўваньне дырэктыў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б да кожнага рабочага, колгасьніка і аднаасобніка—бедняка і серадняка, праз усю сыстэму бальшавіцкай пропаганды—вось задачы, якія ставіць перад сабой журнал.

2. Журнал „За ленінскую вучобу“ будзе абслугоўваць прапагандыстаў і слухачоў сярэдніх і нізавых зьвеньняў партасьветы, пропагандыстаў РК і ГК, парткому, ячэйкі, інструктароў па партасьвеце.

3. Аказваць дапамогу ў справе арганізацыі марксысцка-ленінскага выхаваньня членаў і кандыдатаў партыі, комсамолу і беспартыйнага актыву, у справе выхоўваньня з новага папаўненьня партыі стойкіх ленінцаў-бальшавікоў, у справе падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў ячэйкавага і раённага, партыйнага і комсамольскага актыву, у прыватнасьці перападрыхтоўкі новых кадраў рабочых, саўгасных і колгасных пропагандыстаў.

Журнал „За ленінскую вучобу" будзе дапамагаць цеснай увязцы партвучобы з задачамі соцбудаўніцтва, увязцы вучобы з барацьбой за прамфінплян на кожным прадпрыемстве, заводзе, новабудоўлі, саўгасе, колгасе, МТС, у цэху, брыгадзе, зьмене; перабудове сеткі партасьветы прымяняльна да нізавога вытворчага зьвяна; дыфэрэнцыраванаму падыходу ў партвучобе.

4. Асьвятляць пытаньні арганізацыі і мэтодыкі партыйнай пропаганды, вопыт пропагандысцкай работы і становішча вучобы ў раёнах, на прадпрыемствах, у колгасах, МТС, саўгасах, у ВНУ, ВТНУ, установах.

5. Абслугоўваць пропагандыстаў вучэбнымі плянамі, програмамі і іншымі мэтодычнымі і справаздачнымі матэрыяламі па асноўных пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднага становішча; аглядамі літаратуры для сеткі партасьветы; консультацыямі па палітычных і гаспадарчых пытаньнях.

6. Усе гэтыя задачы толькі тады будуць выкананы з посьпехам, калі Культпропы, сакратары парткомаў, ячэек КП(б)Б і ЛКСМ, пропагандысты і слухачы прымуць актыўны ўдзел у рабоце „За ленінскую вучобу". Чакаем ад вас матэрыялаў аб вопыце работы па партыйнай, комсамольскай вучобе, аб пераходзе на летнія формы, аб становішчы пропагандысцкіх кадраў, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў рабочых, колгасных і саўгасных пропагандыстаў, аб становішчы мэтодыкі і арганізацыі партыйнай і комсамольскай асьветы, аб разгортваньні соцспаборніцтва ў сыстэме партыйнай і комсамольскай асьветы, аб увязцы тэорыі з практыкай, аб завочнай вучобе. Чакаем вашы запатрабаваньні да журналу „За ленінскую вучобу".

---

# ПАСТАНОВА

## сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб становішчы марксысцка-ленінскага выхаваньня па прадпрыемствах г. Барысава

I. Прызнаць, што работа па марксысцка-ленінскім выхаваньні парторганізацыяй вядучых прадпрыемстваў г. Барысава—сарвана. Сетка партасьветы, якая нездавальняюча працавала ў асеньня-зімовы пэрыод (на Бярэзінскім комбінаце было ахоплена—16 проц. канд. і 14 проц. маладых членаў КП(б)Б, на „Домбале"—21 проц. кандыдатаў і 50 проц. маладых членаў КП(б)Б і т. д.), у цяперашні час не працуе. Райком КП(б)Б і парткомы прадпрыемстваў не забясьпечылі сыстэматычнага конкрэтна-опэрацыйнага кіраўніцтва гэтым адказьнейшым вучасткам работы, не організавалі партыйна-выхаваўчай работы з новымі папаўненьнямі партыі, ня гледзячы на тое, што толькі за апошнія два кварталы (IV кв. 1931 г. і I кв. 1932 г.) парторганізацыя вырасла на 328 чал. (129 + 199 чал.) новых кандыдатаў КП(б)Б, не разгарнулі шырокай політвыхаваўчай работы сярод рабочых прадпрыемстваў г. Барысава,—гэтым самым ня выканалі неаднаразовыя пастановы ЦК па гэтым пытаньні.

Адзначыць, што важнейшыя рашэньні партыі (рашэньні XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б, пастановы сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б у парторганізацыях прадпрыемстваў і сярод рабочых апошніх прапрацаваны слаба.

II. Сакратарыят ЦК КП(б)Б лічыць, што такое становішча па кіраўніцтве марксысцка-ленінскай пропагандай ставіць пад пагрозу выкананьне важнейшых дырэктыў партыі аб выхаваньні новых папаўненьняў парторганізацый і новых папаўненьняў рабочае клясы. Сакратарыят ЦК лічыць адносіны, якія наглядаюцца к кіраўніцтву партвыхаваўчай работы на прадпрыемствах з боку парткомаў, аддзелаў РК (культпропаддзелу і рэд. газэты „Бальшавік Барысаўшчыны"), недапушчальнымі і разглядае іх, як недаацэнку марксысцка-ленінскага выхаваньня парторганізацыі і рабочых колектываў.

III. Сакратарыят ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1) За зрыў марксысцка-ленінскага выхаваньня парторганізацый і комсамолу на прадпрыемствах г. Барысава, за няўважлівыя адносіны да політасьветнай работы сярод беспартыйных рабочых гэтых прадпрыемстваў загадчыку культпропам Барысаўскага РК КП(б)Б т. Лінгу, незабясьпечыўшаму рэалізацыю дырэктыў ЦК КП(б)Б па марксысцка-ленінскім выхаваньні—абвясьціць вымову і зьняць з працы. Папярэдзіць РК КП(б)Б і парткомы Бярэзінскага комбінату і Горкомбінату аб недапушчальнасьці тых адносін да марксысцка-ленінскага выхаваньня парторганізацыі, комсамолу і політасьветнай работы сярод беспартыйных рабочых, якія наглядаюцца з боку гэтых парткомаў.

2) Прапанаваць райкому КП(б)Б, парткомам і ячэйкам КП(б)Б прадпрыемстваў у 2-дзенны тэрмін аднавіць работу сеткі партасьветы на прадпрыемствах, якая спыніла сваю работу, значна пашырыўшы яе з мэтай забясьпечаньня найбольш поўнага ахопу марксысцка-ленінскім выхаваньнем шырокіх мас партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых. Паставіць у цэнтры ўвагі работу з новымі папаўненьнямі і пропагандыстамі, усёй сыстэмай партківраўніцтва забясьпечыць падвышэньне якасьці марксысцка-ленінскай пропаганды і ідэолёгічную вытрыманасьць выкладаньня. Шырока разгарнуць дапаўніцельныя формы партвыхаваньня, прыцягваючы для работы ў іх гарадзкі і раённы партактыў. Праз усю сыстэму марксысцка-ленінскай пропаганды мобілізаваць парторганізацыі на вывучэньне прынцыпаў бальшавізму і асноўных рашэньняў партыі па соцыялістычным будаўніцтве, кіруючыся паказаньнямі т. Сталіна.

3) Райкому КП(б)Б і парткомам прадпрыемстваў забясьпечыць сетку партыйнай асьветы стала працуючымі пропагандыстамі, стварыўшы ўмовы для іх падрыхтоўкі.

4) Прапанаваць культпропу ЦК КП(б)Б выдзеліць брыгаду для правядзеньня растлумачальнай работы ў Барысаўскай організацыі данай пастановы і дапамогі апошняй у наладжваньні марксысцка-ленінскага выхаваньня.

5. Гэтую пастанову апублікаваць у друку.

---

Балабанаў П.

# ЗЬМЕСТ І ФОРМЫ ПАРТЫЙНАЙ ВУЧОБЫ

На конфэрэнцыі агрstarнікаў-марксыстаў т. Сталін констатаваў той факт, што за нашымі практычнымі посьпехамі не пасьпявае тэорэтычная мысьль, што мы маем некаторы разрыў паміж практычнымі посьпехамі і разьвіцьцём тэорэтычнай мысьлі. Гэта правільна і ў адносінах партыйнай асьветы ў шмат якіх раёнах.

„Без непрымірымай-жа барацьбы з буржуазнымі тэорыямі на базе марксысцка-ленінскай тэорыі немагчыма дабіцца поўнай перамогі над клясавымі ворагамі“ (Сталін).

Трэба паканчыць з опортуністычнымі адносінамі да партыйнай вучобы, якія дзе-ні-дзе яшчэ праскальзваюць.

„Апіраючыся на рэволюцыйную тэорыю марксызму, прадстаўляючую агульныя і працяглыя інтарэсы клясы ў яе цэлым, партыя ўвасабляе адзінства пролетарскіх прынцыпаў, пролетарскай волі, пролетарскага рэволюцыйнага дзеяньня“ (з програмы Комінтэрну). Уся сыстэма бальшавіцкай пропаганды павінна быць увязана са штодзеннымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва. „Марксызм—ня догма, а кіраўніцтва да дзеяньня“ (Сталін).

Значэньне рэволюцыйнай тэорыі ў тым, што яна—кіраўніцтва для рэволюцыйнага дзеяньня, у тым, што „ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй“ (Ленін). Адрыў тэорыі ад практыкі, веды без работы, без барацьбы, або, як гаварыў Ленін, „кніжнае веданьне комунізму з комуністычных брошур і твораў нічога ня варта, бо яно прадаўжала-б стары разрыў паміж тэорыяй і практыкай, той бу стары разрыў, які зьяўляўся найагіднейшай рысай старога буржуазнага грамадзтва“. Тэорыя не павінна быць адарвана ад практыкі, ад вопыту барацьбы і будаўніцтва, бо „тэорыя ёсьць вопыт рабочага руху ўсіх краін, узяты ў яго агульным выглядзе

Вядома, тэорыя робіцца беспрадметнай, калі яна ня зьвязваецца з рэволюцыйнай практыкай, таксама як і практыка робіцца сьляпой, калі не асьвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй. Але тэорыя можа пер тварыцца ў найвялікшую сілу рабочага руху, калі яна складваецца ў непарыўнай сувязі з рэволюцыйнай практыкай". (Сталін).

„Тэорыя, калі яна зьяўляецца сапраўднай тэорыяй, дае практыкам сілу орыентыроўкі, яснасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы" (Сталін). Вось гэтага і не разумеюць тыя опортуністы, якія з-за дрэў ня бачаць лесу, якія практычнай рабоце, чарговым задачам соцыялістычнага будаўніцтва процістаўляюць партыйную вучобу разважаньнямі, што ёсьць больш важныя рэчы (напрыклад, пасяўная кампанія або выкананьне прамфінпляну), чым партыйная вучоба. Не разумеючы, што сыстэма бальшавіцкай пропаганды павінна мобілізоўваць слухачоў на выкананьне чарговых задач партыі, яны ў сілу гэтага ня могуць увязаць тэорыю з практыкай, разрываюць іх, робяць тэорыю беспрадметнай, а практыку ператвараюць у простае дзяляцтва, якое гранічыць з няўменьнем працаваць па новаму прымяняльна да новай абстаноўкі, да новых задач. Увязка тэорэтычнай вучобы з выкананьнем народнагаспадарчых плянаў павінна быць у што-б там ні было, бо „рэальнасьць нашай програмы—гэта жывыя людзі, гэта мы з вамі, наша воля да працы, наша гатоўнасьць працаваць па-новаму, наша рашымасьць выканаць плян" (Сталін).

Задачы, пастаўленыя XVII партконфэрэнцыяй і XIV зьездам КП(б)Б павінны быць распрацаваны партыйнай сеткай так, каб „захапіць яскравай і яснай пэрспэктывай" (Ленін).

Неабходна давесьці да сазнаньня кожнага працоўнага апошнія рашэньні ЦК і СНК аб сельгаспадатку, аб збожжа і жывёлазагатоўках і разгортваньні колгаснага гандлю. „Недастаткова быць рэволюцыянэрам і староньнікам соцыялізму або комунізму наогул. Трэба ўмець знайсьці ў кожны момант тое асобнае зьвяно ланцугу, за якое трэба ўсімі сіламі ўхапіцца, каб утрымаць увесь ланцуг і грунтоўна падрыхтаваць пераход да наступнага зьвяна"... „У даны момант... такім зьвяном зьяўляецца ажыўленьне ўнутранага гандлю пры яго правільным дзяржаўным рэгуляваньні", так гаварыў Ільліч аб гандлі ў аднаўленчы пэрыод. Цяпер, калі звыш 60 проц. бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак колектывізавана, калі да канца 2-й пяцігодкі павінна быць павялічана снабжэньне

працоўнага насельніцтва ў 2—3 разы, калі „толькі на аснове разгортваньня тавараабароту магчыма забясьпечыць далейшае палепшаньне снабжэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і продуктамі сельскай гаспадаркі“ (XVII конфэрэнцыя ЎсеКП(б),—колгасны гандаль становіцца вялізарнейшым фактарам разгортваньня тавараабароту. Апошнія пастановы ЦК і СНК робяць глыбокі пералом у бок узмацненьня колгаснага гандлю, які зьяўляецца савецкім гандлем, паколькі колгасны сэктар зьяўляецца соцыялістычным сэктарам.

„Умець у кожным тэорэтычным тэзісе,—гаварыў т. Кагановіч,— знайсьці прымяненьне яго да вострых, актуальных пытаньняў сёнешняга дня, разумець адзінства супроцьлегласьці ў рэчаіснасьці“, вось якія патрабаваньні прад'яўляюць ячэйкам, пропагандыстам новая абстаноўка, новыя ўмовы.

Ячэйкі і пропагандысты павінны выходзіць з таго сталінскага палажэньня, што трэба „ўзьнімаць масы да ўзроўню сазнаньня партыі і забясьпечыць, такім чынам, падтрыманьне мас, іх гатоўнасьць да рашучай барацьбы“.

Асабліва нездавальняюча пастаўлена партасьветная работа з кандыдацкім складам партыі і маладымі членамі партыі. На гэтым вучастку трэба ўмець спалучаць пропаганду сучасных задач, высоўваемых партыяй, з гісторыяй „бальшавізму, узьнікшага на гранітнай тэорэтычнай аснове марксызму“ (Ленін), таго бальшавізму, які „прарабіў гісторыю, што па багацьці вопыту ня мае сабе роўнай у сьвеце“ (Ленін), не адрываючы бальшавізм ад ленінізму. „Гэтыя дзьве назвы аднаго і таго-ж прадмету. Таму тэорыя расьсячэньня ленінізму на дзьве часткі ёсьць тэорыя разбурэньня ленінізму, ёсьць тэорыя падмены ленінізму трацкізмам“ (Сталін).

Кандыдаты і маладыя члены партыі павінны ведаць асновы гісторыі партыі, „гісторыя бальшавіцкай партыі гэта не архіў, а кіраўніцтва да дзеяньня, якое дае ключ да разуменьня і вырашэньня самых актуальных проблем соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР і барацьбы сусьветнага пролетарыяту“ (З прамовы т. Постышава на III пленуме ЦК УсеЛКСМ).

„Гісторыя ленінскай УсеКП(б)—вось аснова для рэволюцыйнага выхаваньня новых кадраў пролетарскіх рэволюцыянэраў у нашай краіне і ва ўсім сьвеце“ (там-жа).

Партыйцы і комсамольцы абавязаны ведаць, што „ленінізм зьяўляецца інтэрнацыянальным вучэньнем пролетараў усіх краін“

(Сталін), што „бальшавізм склаўся і выхаваўся ў бязупынных баёх супроць народнікаў, эсэраў, легальных марксыстаў, эконо-місгаў, меншавікоў, ліквідатараў, цэнтрыстаў, супроць „левых" унутры бальшавіцкіх радоў—адзавістаў, упяродаўцаў, супроць прымірэнцаў, супроць правых ухілістаў і контррэволюцыйнага трацкізму" (Постышаў).

Партыйцы і комсамольцы абавязаны ведаць, што „ленінізм ёсьць марксызм эпохі імпэрыялізму і пролетарскіх рэволюцый", што „ленінізм зьяўляецца далейшым разьвіцьцём марксызму" (Сталін). У пісьме ў журнале „Пролетарская революция" т. Сталін пісаў, што „ленінізм нарадзіўся, вырас і ўмацаваўся у бязьлітаснай барацьбе з опортунізмам усіх масьцей, у тым ліку з цэнтрызмам на Захадзе (Каўцкі), з цэнтрызмам у нас (Троцкі і інш.). Гэтага ня могуць адмаўляць нават прамыя ворагі бальшавізму. Гэта—аксыома".

Як-жа члены партыі і комсамольцы могуць гэтага ня ведаць, калі „гэтага ня могуць адмаўляць нават прамыя ворагі бальшавізму, калі гэта—аксыома".

Але факты няведаньня асноў гісторыі партыі некаторымі членамі партыі, кандыдатамі і комсамольцамі выяўлены ў сувязі з праверкай марксысцка-ленінскага выхаваньня ў некаторых організацыях КП(б)Б (Менск, Гомель, Віцебск, Барысаў, Рэчыца). Значыцца, „задача заключаецца ў тым, каб узброіць гэтыя кадры разуменьнем бальшавіцкай пастаноўкі пытаньня аб барацьбе на два фронты, уменьнем разьбірацца ў асаблівасьцях праяў опортунізму на кожным даным гістарычным этапе і распазнаць яго ў якіх-бы масках ён не выступаў" (Постышаў).

Якое вялізарнейшае значэньне мае тэорыя, відаць хаця-б з таго, што ў рэзолюцыі аб бальшавізацыі партый Комінтэрну, пашыраны пленум ІККІ запісаў яшчэ ў 1925 г., што „недастатковая ўвага да тэорыі, якая заўважаецца ў радзе партый, зьяўляецца буйнейшай перашкодай да сапраўднай бальшавізацыі партый Комінтэрну. Пры „цярпімых" адносінах да тэорэтычных ухілаў і г. д. і т. п. ня можа быць і гутаркі аб сапраўднай бальшавізацыі партый. Аўладаньне тэорыяй ленінізму ёсьць прадпасылка пасьпяховай бальшавізацыі партыі".

Само сабой зразумела (а шмат якія ячэйкі гэтага сабе не ўсьвядомілі), што кандыдаты партыі абавязаны ведаць статут і програму партыі і Комінтэрну. Вынікі праверкі марксысцка ленінскага выхаваньня па ўказаных організацыях даюць права

гаварыць, што ў шмат якіх ячэйках у гэтых адносінах справа абстаіць ня зусім добра.

У другім параграфе статуту партыі запісана: „новыя члены прымаюцца з ліку кандыдатаў, прашоўшых школу палітычнай граматы і ўстаноўлены кандыдацкі стаж". Вось гэты параграф статуту ня ўсюды выконваецца, бо каля палавіны кандыдатаў ня ўцягнуты ў кандыдацкія школы, г. зн. не праходзяць „школы палітычнай граматы".

У сёмым параграфе статуту партыі запісана: „Усе асобы, жадаючыя ўступіць у лік членаў партыі, праходзяць кандыдацкі стаж; які мае на мэце грунтоўнае азнаямленьне з програмай і тактыкай партыі і праверку асабістых якасьцяй кандыдата".

Партыйныя школы і пропагандысты слаба ведаюць гэтыя „асабістыя якасьці кандыдатаў", ня ўдзельнічаюць пры пераводзе кандыдата ў члены партыі, не падрыхтоўваюць кандыдата да пачэснай ролі члена комуністычнай партыі, калі гэтыя кандыдаты не праходзяць у кандыдацкай школе статуту і програмы партыі і Комінтэрну, гісторыі бальшавізму, задач 2-ой пяцігодкі, асноў экономічнай і нацыянальнай палітыкі партыі Кандыдат павінен, у абавязковым парадку, а не ў добраахвотным, прайсьці кандыдацкую школу. Кандыдаты, як і члены партыі, павінны змагацца на два фронты. Як з правым ухілам, які зьяўляецца таму галоўнай небясьпекай, што „ён адлюстроўвае кулацкую небясьпеку, а кулацкая небясьпека ў даны момант разгорнутага наступленьня і карчаваньня карэньняў капіталізму зьяўляецца асноўнай небясьпекай у краіне" (С т а л і н), ня гледзячы на тое што пытаньне „хто каго" і ў горадзе і ў вёсцы вырашана на карысьць соцыялізму, так і з „левым" опортунізмам.

Кандыдаты, як і ўсе члены партыі, павінны ведаць, што „сутнасьць троцкізму заключаецца перш за ўсё ў адмаўленьні магчымасьці пабудаваньня соцыялізму ў СССР сіламі рабочай клясы і сялянства нашай краіны" (С т а л і н), што зараз троцкізм— перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі.

Кандыдаты, як і члены партыі, абавязаны ведаць, што такое „левы" опортунізм, яго сутнасьць, у прыватнасьці, што ён адлюстроўвае імкненьне пераскакваць праз няўхільны на даным адрэзку часу этап соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта выражаецца, у прыватнасьці, у імкненьні да ліквідацыі грошай і пераходу да непасрэднага продуктаабмену, што процістаўляецца лініі партыі на разгортваньне савецкага гандлю, узмацненьне гаспадарчага разьліку; у імкненьні пераскочыць праз існуючую арцельную форму

колгасу да саўгасаў і комун, што процістаўляецца генэральнай лініі партыі на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў у іх форме с.-г. арцелі, як асноўнай форме на даным этапе. Усе гэтыя „лявацкія“ загібы льлюць ваду на млын клясавага ворага.

Кандыдаты абавязаны ведаць тактыку партыі, якая прадстаўляе сабой „палітычныя паводзіны, або характар, напрамак, спосабы яе палітычнай дзейнасьці“ і яе стратэгію, якая прадстаўляе сабой „азначэньне напрамку галоўнага ўдару пролетарыяту на аснове данага этапу рэволюцыі, выпрацоўка адпаведнага пляну распалажэньня рэволюцыйных сіл“ (Сталін). Ведаць, што „стратэгія і тактыка ленінізму ёсьць навука аб кіраўніцтве рэволюцыйнай барацьбой пролетарыяту“ (Сталін).

Буйнейшай задачай, якая стаіць перад партыйнымі організацыямі, зьяўляецца задача падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі рабочых, саўгасных і колгасных пропагандыстаў. Яшчэ да рэволюцыі т. Ленін у пісьме да слухачоў школы на востраве Капры пісаў: „Ва ўсякай школе самае важнае—ідэйна палітычны напрамак лекцый. Чым азначаецца гэты напрамак? Цалкам і выключна складам лектароў. Вы вельмі добра разумееце, таварышы, што ўсякі „контроль“, усякае „кіраўніцтва“, усякія „програмы“, статуты“ і інш., усё гэта пусты гук у адносінах да складу лектароў“.

У гэтых адносінах у партасьветнай сетцы ня ўсё абстаіць добра: недастатковая кваліфікацыя пропагандыстаў, недастатковая колькасьць іх, цякучасьць іх складу, ня гледзячы на неаднаразовыя дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб замацаваньні пропагандыстаў.

У апошняй дырэктыве Культпропу ЦК УсеКП(б) выразна і ясна сформулявана дырэктыва аб тым, што трэба забараніць на год перакідку рабочых, саўгасных і колгасных пропагандыстаў на іншую работу, вызваліўшы іх ад іншых партнагрузак.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 17 мая 1932 г. указаў, што рад раёнаў—Быхаўскі, Талачынскі, Уваравіцкі, Плешчаніцкі, Церахоўскі і інш. ня выконваюць гэтых пастаноў і ўказаў гэтым раённым комітэтам партыі на недапушчальнасьць гэтых адносін да рашэньняў партыі, даручыўшы Культпропу ЦК КП(б)Б праверыць выкананьне пастановы ЦК.

Неабходна змагацца за кожнага пропагандыста, стварыць яму ўмовы для яго работы, штодзенна дапамагаць яму. Ёсьць факты, калі ня толькі паасобным пропагандыстам, але і пропгрупам, якія працуюць на мясцох, не даецца дапамога з боку

райкомаў. З падобнымі опортуністычнымі адносінамі да пропагандыстаў і пропгруп трэба скончыць. Трэба сыгналізаваць аб гэтым у мясцовы і цэнтральны друк. Асабліва гэта датычыцца Лельчыцкага райкому КП(б)Б, які зрывае работу пропгрупы ЦК КП(б)Б.

Форма вучобы павінна адпавядаць зьместу і пастаўленым мэтам поўнага ахопу партыйнай сеткай членаў, кандыдатаў комсамолу і беспартыйнага рабочага і колгаснага актыву і ўзьняцьця якасьці вучобы.

Да стацыонарных форм масавай партасьветы адносяцца 6-месячная школа, якая зьяўляецца скарочанай ВСПШ; гадавая школа (гэта ВСПШ для нізавога партактыву); 3-месячная школа двух тыпаў: першага тыпу—3-месячная школа, абавязковая для кандыдатаў, і другога тыпу—3-месячная павышанай ступені для кандыдатаў і членаў партыі, больш падрыхтаваных, але ня скончыўшых школы 1-га тыпу, або скончыўшых, але якія па сваей політычнай падрыхтаванасьці маюць патрэбу ў перападрыхтоўцы, але яшчэ слаба падрыхтаваных каб, вучыцца ў ВСПШ.

Зьмест вучобы гэтых абодвух тыпаў, магчыма і паралельна працуючых школ (там, дзе ёсьць контынгент для абодвух тыпаў школ) аднолькавы, але пры разьмеркаваньні ўлічваецца ступень падрыхтаванасьці.

Зьмест вучобы ў гэтых абодвух тыпаў трохмесячных школ наступны: вывучэньне програмы і статуту партыі і Комінтэрну, гісторыі бальшавізму і вопыту барацьбы на два фронты на падставе пісьма т. Сталіна і задач партыі ў новай абстаноўцы соцыялістычнага будаўніцтва і разгортваньня міжнароднага рэволюцыйнага руху; задач другой пяцігодкі ў сьвятле пастаноў XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б у прыватнасьці другой пяцігодкі БССР. Вывучэньне апошніх пастаноў ЦК і СНК аб збожжа і жывёлазагатоўках і разгортваньні колгаснага гандлю. Што датычыцца 6-месячных і гадавых ВСПШ, дык яны карыстаюцца з 1 чэрвеня 2 месячным перапынкам, але слухачы гэтых школ, як і тыя, хто яшчэ не ахоплен сеткай партасьветы, павінны пераключыцца на летнія формы вучобы: ударныя дні вучобы, кароткатэрміновыя школы і курсы, тэматычныя гурткі, гурткі бягучай політыкі, лекцыі, марксысцка-ленінскія гурткі і на вучобу ў стацыянарнай сетцы—трохмесячных школах.

Улічваючы асаблівыя ўмовы работнікаў воднага транспорту, работнікаў дарожнага будаўніцтва, торфазаводаў і т. д., неабходна

прымяніць гібкія формы ахопу як партыйцаў, комсамольцаў, так і беспартыйнага актыву партвыхаваўчай работай, скарыстаўшы найбольш прыймальныя формы вучобы, прымяняльна да ўмоў данага віду работы.

Програмы для торфарабочых, разьлічаныя для першапачатковай 3—4-месячнай школы, можна скарыстаць і для работнікаў воднага транспорту, сплаву, будаўнікоў, рабочых дарожнага будаўніцтва. Гэтыя програмы ёсьць у культпропах раённых комітэтаў партыі, якія атрымалі іх ад Культпропа ЦК КП(б)Б.

Да летніх форм вучобы адносіцца таксама організацыя дзён політвучобы ў колгасных і саўгасных брыгадах, ударныя дні вучобы, пропагандысцкія суботнікі і васкрэсьнікі.

З усяго ўказанага зусім відавочна тая колёсальная і адказьнейшая работа, якая павінна і будзе праведзена організацыямі партыі і комсамолу па аўладаньні марксысцка-ленінскай тэорыяй.

---

Улазаў і Клімаў

## РАЗВАЛ ПАРТАСЬВЕТЫ НА БУЙНЕЙШЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ г. БАРЫСАВА

„Вядома таксама, што многія сучасныя практыкі-ленінцы ня вельмі мілуюць тэорыю асабліва ў сувязі з тым бяздоньнем практычнай работы, якую прымушаны яны несьці па абстаноўцы... Імкненьне практыкаў адмахнуцца ад тэорыі супярэчыць усяму духу ленінізму і мае вялікія небясьпекі для справы“ (Сталін, Вопросы ленинизма, стар. 16).

Гор. Барысаў зьяўляецца адным з буйнейшых прамысловых цэнтраў Беларусі, у ім знаходзяцца такія буйнейшыя прадпрыемствы, як шклозавод—Домбаль, Бярэзінскі комбінат, дрэваапрацоўчы комбінат „Комінтэрн“, Горкомбінат і інш. Некаторыя з іх маюць ня толькі рэспубліканскае, але і ўсесаюзнае значэньне. Агульная колькасьць рабочых, занятых ва ўсіх відах прамысловасьці, складае 13 тысяч чалавек. Вялізарныя задачы па выкананьні вытворчай програмы, пастаўленыя перад прамысловасьцю ў 4-м заключным годзе пяцігодкі прыцягваюць у рады пролетарыяту новыя кадры рабочых. Расшырэньне вытворчасьці і папаўненьне прадпрыемстваў новым абсталяваньнем ставіць задачу аўладаньня тэхнікай вытворчага процэсу, асабліва новымі папаўненьнямі рабочых, якія нядаўна прышлі ў цэхі. Вялікі процант рабочых—гэта рабочыя, якія нядаўна прышлі на фабрыку, завод, маюць зусім невялікі стаж вытворчай работы, маладых па сваім узросьце (пераважная частка да 28—30 гадоў) і якія не парвалі сувязі з вёскай і г. д. Вось прыклад: па Бярэзінскім комбінаце з усёй колькасьці рабочых у 2330 чал. 1936 ч. са стажам ніжэй 5 гадоў. Адначасова з гэтым асаблівыя вытворча-бытавыя ўмовы рабочых, як многазьменнасьць, наяўнасьць значнай праслойкі жанчын-работніц, зьвязаных з сям'ёй, іх нізкі палітычны і агульны ўзровень, з усёй вострасьцю

ставяць задачу разгортваньня шырокай палітыка-выхаваўчай работы, якая павінна забясьпечыць выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну заключнага году пяцігодкі.

Парторганізацыі на гэтых прадпрыемствах г. Барысава характарызуюцца наяўнасьцю пераважнай часткі маладых членаў са стажам з 1929—1931 г., значнай праслойкай кандыдатаў, якая даходзіць на асобных прадпрыемствах да 50 проц. і больш, пры параўнальна нізкай палітычнай і агульнай іх падрыхтаванасьці.

Вось карціна складу парторганізацыі на вядучых прадпрыемствах г. Барысава.

| | | |
|---|---|---|
| Завод „Домбаль". . . . | 78 членаў КП(б)Б, | 43 кандыдатаў. |
| Дрэваапрацоўчы комбінат „Комінтэрн." . . . . . | 95 „ | „ 72 „ |
| Горкомбінат. . . . . . | 65 „ | „ 32 „ |
| Фабрыка „Бярэзіна" . . | 190 „ | „ 200 „ |

Усе гэтыя моманты з усёй вострасьцю ставілі перад парторганізацыяй Барысаўшчыны пытаньне аб марксысцка-ленінскім выхаваньні комуністаў, кандыдатаў партыі, комсамольцаў і беспартыйных рабочых. Выходзячы іменна з гэтай агульнай характарыстыкі складу рабочых, парторганізацыі асноўных вядучых прадпрыемстваў і павінны былі ўзьняць марксысцка-ленінскае выхаваньне на высату сучасных задач. Усё гэта патрабавала сыстэматычнага, конкрэтна опэратыўнага кіраўніцтва партыйна-выхаваўчай работай з новымі кандыдатамі і маладымі членамі КП(б)Б, шырокага ахопу як стала функцыянуючай сеткай партасьветы, так і эпізодычнымі каротка-тэрміновымі формамі навучаньня шырокіх мас рабочых, асабліва работніц; сугубага прыстасаваньня сеткі партасьветы да вытворча-бытавых умоў рабочых, іх узроставага складу і агульнай падрыхтаванасьці; сыстэматычнай работы па падрыхтоўцы робочых пропагандыстаў і опэратыўнага кіраўніцтва работай школ, давядзеньня гэтага кіраўніцтва да кожнай цэхавай і зьменнай ячэйкі, парт-організатара.

Задача парторганізацыі даць краіне ня толькі высокаякасную прадукцыю сваёй вытворчасьці, але і кадры моцных бальшавікоў-ленінцаў, здольных біцца за генэральную лінію партыі, за чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі, супроць усіх ворагаў рабочай клясы, супроць опортуністаў усіх колераў.

## Якое сапраўднае становішча партасьветы

Гэтыя вялізарнейшыя палітычныя задачы ў галіне марксысцка-ленінскага выхаваньня парторганізацыяй ня выкананы, што прывяло да зусім нездавальняючага разгортваньня сеткі партыйнай асьветы ў асеньня-зімовы пэрыод і поўнага зрыву марксысцка-ленінскага выхаваньня да пачатку вясны і на даны адрэзак часу.

Становішча партасьветы ў асеньня-зімовы пэрыод характарызуецца на прадпрыемствах Барысава наступнымі паказальнікамі:

Фабрыка „Бярэзіна"—было ахоплена вучобай: кандыдатаў—16 проц., маладых члена ў партыі—14 проц. Завод „Домбаль"—было ахоплена вучобай: кандыдатаў—21,9 проц., маладых членаў партыі—40 проц. „Горкомбінат" — было ахоплена вучобай: кандыдатаў 40 проц., маладых членаў партыі—50 проц. Дрэваапрацоўчы комбінат „Комінтэрн"— было ахоплена вучобай: кандыдатаў—40 проц., маладых членаў партыі—70 проц.

Гэтыя лічбы паказваюць, што дырэктывы партыі аб поўным і абавязковым ахопе вучобай кандыдатаў партыі і новых папаўненьняў ня былі выкананы. Становішча яшчэ пагаршаецца, калі ўлічыць дрэннае наведваньне і адсеў слухачоў, які дасягае 50 проц. і больш. Так, на фабрыцы „Бярэзіна" на 1/I займалася 120 чал., на 1/III ужо толькі 58 чал., што склала 48 проц. адсеву.

Зараз на прадпрыемствах барысаўшчыны партвучоба зусім развалілася. Вось прыклады: на чыгунцы з 25 сакавіка заняткаў не адбылося ніводнага разу. Замест заняткаў у дні вучобы праходзяць розныя сходы. На фабрыцы „Бярэзіна" таксама ўжо два месяцы, як развалілiся ўсе віды партвучобы. Партколектыў такое становішча лічыць нормальным і ніякіх мер ня прыняў да палепшаньня гэтага становішча. Нова-Барысаўская ВСПШ і гарадзкая ВСПШ наведваюцца зусім дрэнна. На заняткі прыходзіць 4—5 чал. Таксама абстаіць справа і на іншых прадпрыемствах. Няўмеласьць, непаваротлівасьць партківраўніцтва на прадпрыемствах, неразуменьне ўказаньняў т. Сталіна па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць прывялі да такога дрэннага становішча.

Парторганізацыі ня здолелі замацаваць слухачоў, ахопленых вучобай у зімовы час, нават частка слухачоў, што займалася, ня скончыла да канца праграмы. Ні адно прадпрыемства не арганізавала выпуску слухачоў і пераводу іх у вышэйшыя зьвеньні партасьветы.

## Партактыў ня вучыцца

Вучоба актыву за ўвесь адрэзак часу не знайшла адбітку ў рабоце парторганізацыі. Адсутнасьць вучобы актыву лічыцца нормальнай зьявай па прычыне таго, што ён загружан практычнай работай і ня мае часу вучыцца. Вячэрні комвуз не наведваецца. З ахопленых у ім 30—35 асоб наведваюць 30—20 проц., заняткі часта зрываюцца. Аддзяленьне вячэрняга комвузу на фабрыцы „Бярэзіна" наведваецца 3—5 асобамі. Загадчык вячэрнім комвузам увесь свой час траціць на тое, каб прыцягнуць студэнтаў на заняткі. Іншыя формы вучобы актыву, больш прыстасаваныя да ўмоў работы актыву, адсутнічаюць. Завочная вучоба і вучоба па радыё не разгорнуты. З актыву Барысава толькі 4 чалавекі фактычна выконваюць заданьні па завочным навучаньні. Між тым у гарадзкой арганізацыі налічваецца 268 чал. актыву, ня лічачы нізавы актыў прадпрыемстваў, з якім неабходна весьці сыстэматычную работу па ўзбраеньні марксыцка-ленінскай тэорыяй. І тут парторганізацыя Барысава праявіла опортуністычныя адносіны, спадзяючыся на самацёк.

## Політвыхаваньне комсамолу на хвалях самацёку

Пропаганда ў сыстэме комсамольскай работы набывае буйнейшае значэньне і высоўваецца, як адзін з найбольш адказных вучасткаў работы ўсёй арганізацыі Барысаўшчыны, бо на прадпрыемствах Барысава пераважная частка рабочых—моладзь комсамольскага ўзросту, пераважная частка ў арганізацыі комсамолу—навічкі. Становішча політвыхаваньня ў комсамоле могуць характарызаваць наступныя факты. Возьмем для прыкладу ўжо нам знаёмыя прадпрыемствы: фабрыку „Бярэзіна", дзе з усёй колькасьці 515 чал. комсамольцаў займаліся ў політгуртках 46 чал. і 1 чал. беспарт. моладзі; на Горкомбінаце з 200 чал. наведвалі гурткі 38 чал.—КСМ і 5 беспартыйнай моладзі.

Кіруючыя арганізацыі комсамолу справай комсамольскага выхаваньня сыстэматычна не займаюцца. У многіх колектывах нават ня ведаюць форм політвыхаваньня, ня ведаюць у чым задача кожнай формы і на каго яна разьлічана. Зусім адсутнічаюць програмы і падручнікі. Вурокі дрэннага становішча політвыхаваньня ў зімовы час ня вывучаны і ня зроблена ніякага пералому для палепшаньня справы на летні пэрыод. Прадаўжаецца

плаваньне на хвалях опортуністычнага самацёку. Парторганізацыі неабходна рашуча і па бальшавіцку падыйсьці да кіраўніцтва комсамолам і дабіцца рашучага пералому ў справе барацьбы за аўладаньне марксысцка-ленінскай тэорыяй.

## Пропангандысты—асноўнае зьвяно партасьветы

Асноўнай прычынай, якой парторганізацыі Барысава імкнуцца тлумачыць развал партыйнай вучобы, зьяўляецца адсутнасьць пропагандысцкіх кадраў. Але парторганізацыі Барысава ня прынялі абсалютна ніякіх мер для замацаваньня пропагандыстаў за школамі, для падрыхтоўкі і вылучэньня новых рабочых пропагандыстаў і сыстэматычнага мэтодычнага кіраўніцтва ў мэтах падвышэньня іх тэорэтычнага і мэтодычнага ўзроўню. Якасьць пропагандыста—гэта значыць яго партыйна-палітычная вытрыманасьць і мэтодычная вопытнасьць у канчатковым выніку вызначаюць ідэйна-палітычную якасьць бальшавіцкай пропаганды. Такім чынам, парторганізацыям Барысава гэту галіну работы патрэбна было паставіць як галоўную і цэнтральную задачу ў барацьбе за бальшавіцкую пропаганду.

Сапраўднае становішча з пропагандыстамі ў Барысаве вельмі дрэннае—амаль адсутнічаюць рабочыя пропагандысты. У мінулым годзе РК КП(б)Б праведзена падрыхтоўка рабочых пропагандыстаў. Выпушчана 30 чалавек, але ж на пропагандысцкай рабоце зараз з гэтай колькасьці працуе толькі 3 чал. Усе астатнія парторганізацыямі прадпрыемстваў скарыстоўваюцца на іншай рабоце, але не як пропагандысты, і не таму, што яны ня здольны кіраваць школай або гуртком, а дзякуючы недаацэнцы і нават ігнораваньню з боку партыйных організацый справай партыйнай асьветы. Цякучасьць і зьменнасьць пропагандысцкіх кадраў дасягае такога становішча, пры якім ні ў якім разе нельга забясьпечыць нормальную работу школ. Так на лесазаводзе Горкомбінату ў існаваўшай раней першапачатковай школе на працягу работы зьмянілася да 5 чал. пропагандыстаў. Амаль на кожныя заняткі прыходзіў новы пропагандыст і вядома, якая тут была якасьць работы. Недарма на заняткі прыходзіла 3—4 чал., ня больш. Пастанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б) аб замацаваньні пропагандыстаў ня менш як на год на пропагандысцкай рабоце сыстэматычна ігноравалася. Нельга знайсьці ў Барысаве такой школы, гуртка, дзе-б пропагандыст пачаў работу і давёў школу







да скончэньня програмы. Адсюль, бязумоўна, і вельмі нізкая якасьць работы, нізкі палітычны ўзровень пропагандыста. Загружанасьць другой работай не дазваляе сыстэматычна рыхтавацца да заняткаў. Ёсьць выпадкі, калі пропагандыст нават і ня ведае, прышоўшы на заняткі, чым ён будзе займацца і якое пытаньне будзе разьбіраць са слухачамі. Заняткі праходзяць вяла, сумна, гаворыцца аб чым жадаеш, „наогул і ў сусьветным маштабе“, толькі не на пэўную тэму. Няма ўвязкі і мобілізацыі слухачоў на вырашэньне конкрэтных задач свайго прадпрыемства, на выкананьне прамфінпляну і т. д. У гутарцы дапускаюцца памылкі і палітычныя скажэньні з боку кіраўнікоў, якія слухачамі прымаюцца за сапраўднасьць, за лінію партыі. Палітычны ўзровень слухачоў пры такой пастаноўцы работы вельмі нізкі. У аднэй школе Горкомбінату некаторыя слухачы ня ведаюць, хто такі Молатаў, што адбываецца ў Манчжурыі і інш. У гарадзкой ВСПШ кіраўнік разьбірае пастанову пленуму аб культурным будаўніцтве, ня высьветліўшы і не разгарнуўшы крытыкі ўхілаў у нацпытаньні і ў першую чаргу вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе. Такіх прыкладаў можна прывесьці шмат.

Організацыя-ж кіраўніцтва пропагандыстамі зусім адсутнічае. Мэтодычнае бюро пры Культпропе РК і Дом комасьветы, якія маюць ня дрэнны склад работнікаў, працуюць вельмі аднабакова Увесь час займаліся складаньнем заданьняў для кіраўнікоў школ і на гэтым лічылі ўсю справу скончанай. Паставіць-жа ідэйна-палітычную якасьць кіраўніцтва пропагандыстамі не змаглі лічачы гэта не сваім вучасткам работы. У той час, калі неабходна было вынесьці кіраўніцтва пропагандыстамі на самыя прадпрыемствы, організаваўшы там стала працуючыя пропсэмінары, консультацыі і т. д.

## Партсетка не забясьпечыла барацьбы за генэральную лінію партыі

Асноўныя рашэньні партыі па актуальнейшых пытаньнях соцбудаўніцтва, як-та: рашэньні Сакавіцкага пленуму аб культурным будаўніцтве, дырэктывы партыі і ўраду аб збожжа і мясазагатоўках, разгортваньні колгаснага гандлю, сельскагаспадарчым падатку, гістарычныя рашэньні XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б, у сетцы партасьветы дастаткова не распрацаваны, і праз

яе не даведзены да шырокіх колаў рабочай клясы. Так, аб XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезьдзе абмежаваліся пастаноўкай агульных дакладаў на партсходах, у сетцы партасьветы толькі ў некаторай частцы школ гэтыя пытаньні разьбіраліся. Усе апошнія пастановы партыі не распрацоўваліся, бо не існавала ўжо самой сеткі. Пропаганда была мала конкрэтнай, тэорэтычная прапрацоўка ня ўвязвалася з работай данага вытворчага вучастку, цэху, брыгады і т. д. Адставаньне ў прапрацоўцы і адсутнасьць прапрацоўкі важнейшых рашэньняў партыі, вядома, не садзейнічалі пасьпяховаму іх выкананьню.

## Кіраўніцтва Культпропу РК КП(б)Б не забясьпечыла пасьпяховасьці партыйнага выхаваньня

Культпроп РК КП(б)Б не забясьпечыў пасьпяховага кіраўніцтва разгортваньнем і пастаноўкай марксысцка-ленінскага выхаваньня, палепшаньнем якасьці яго на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва і рэалізацыі 6 гістарычных умоў т. Сталіна. Палітычная недаацэнка партыйнай асьветы, адсутнасьць штодзённага кіраўніцтва і контролю з боку партячэек і зьявілася прычынай развалу школ і гурткоў, які адбываўся на вачох Культпропу РК, і якім ня прымаліся адпаведныя меры да гэтых ячэек у сэнсе прыцягненьня іх да партыйнай адказнасьці. На буйнейшым прадпрыемстве, фабрыцы „Бярэзіна“, дзе на працягу ўсяго часу існавала недаацэнка і нават ігнараваньне партасьветы, імкненьне замяніць яе тэхнічнай і агульна-адукацыйнай вучобай не атрымала рашучага адпору з боку Культпропу РК.

Супроць развалу школ і гурткоў ня прымаліся рашучыя, конкрэтныя меры барацьбы. Адкрытыя заявы з боку паасобных колектываў аб тым, што „нельга займацца вучобай таму, што ў нас галоўная задача—выкананьне прамфінпляну“ рашуча ня былі асуджаны РК і ня ўказана было аб спалучэньні і ўвязцы выкананьня прамфінпляну з партпропагандай, як моцнай зброяй барацьбы за генэральную лінію партыі. Займаецца пропагандай на прадпрыемствах невялікая група асоб (іменна, у асноўным пропагандысты і часткова культпропы), якая без актыўнага ўдзелу ўсёй парторганізацыі не змагла забясьпечыць належнай пастаноўкі партвыхаваньня. Кіруючы партыйны, прафсаюзны і гаспадарчы актыў ня быў прыцягнуты да гэтай справы і да конкрэтнага ўдзелу ў кіраўніцтве школамі, гурткамі.

РК КП(б)Б зусім правільна вызначыў задачы марксысцка-ленінскага выхаваньня, асабліва работу з новымі папаўненьнямі, у рашэньнях Сакавіцкага пленуму РК і інш. аб становішчы партасьветы і пераходзе на летнія формы, але адначасова не арганізаваў праверкі выкананьня гэтых дырэктыў, што прывяло да невыкананьня іх асобнымі парторганізацыямі.

У рабоце Культпропу РК КП(б)Б адсутнічае плянавасьць у галіне кіраўніцтва сеткай партасьветы. У сваёй рабоце Культпроп не прымяняе 6 умоў т. Сталіна. Існуючая абязьлічка ў кіраўніцтве работай па партвыхаваньні прывяла да адсутнасьці ўліку работы як у парткомах, партколектывах, так у Культпропе РК КП(б)Б. Аб гэтым паказваюць факты няведаньня, колькі абавязкова павінны навучацца ў сетцы партасьветы, адсутнасьць контрольных лічбаў па вучобе новых папаўненьняў. Да гэтага часу яшчэ не арганізаваны выпуск і новае комплектаваньне школ, не падведзены вынікі двухдэкадніка агляду работы з кандыдатамі, які фактычна прайшоў вельмі формальна, не распрацаваны дырэктывы па вучобе на летні пэрыод і т. д. Усё гэта сьведчыць аб адсутнасьці належнага кіраўніцтва.

Друк, як раённы, так і нізовы, ня вёў сыстэматычнай барацьбы за марксысцка-ленінскае выхаваньне, а таксама зусім слаба сыгналізаваў аб буйнейшых прарывах на гэтым вучастку партыйнай работы на прадпрыемствах Барысава.

## Рашуча перабудаваць работу па-новаму і паставіць марксысцка-ленінскае выхаваньне на вышэйшую ступень

Парторганізацыя Барысаўшчыны павінна ўлічыць вурокі глыбокіх прарываў у пастаноўцы марксысцка-ленінскага выхаваньня і ўзяцца рашуча, па-бальшавіцку, за перабудову работы на новыя рэльсы. Для гэтага неабходна ў першую чаргу разгарнуць рашучую барацьбу з недаацэнкай бальшавіцкай пропаганды, як з праяўленьнем правага опортунізму на практыцы. Партыйную пропаганду неабходна паставіць у цэнтры ўвагі партыйных арганізацый, організуючы сталую праверку выкананьня дырэктыў на аснове строгага ўліку работы і ліквідацыі абязьлічкі ў галіне марксысцка-ленінскай пропаганды. Задача заключаецца ў тым, каб спусьціцца глыбей, разгарнуць работу ў кожнай цэхавой парт-

ячэйцы, у кожнай партгрупе, арганізаваць у бліжэйшы час стала функцыянуючую партсетку, выходзячы з апошніх дырэктыў ЦК КП(б)Б, і павысіць ідэйны ўзровень партыйнай вучобы, забясьпечыўшы арганічную сувязь тэорэтычнай вучобы з задачамі і работай усёй партыйнай арганізацыі прадпрыемстваў, падымаючы вышэй ролю сеткі партасьветы, як мацнейшай зброі партыі ў барацьбе за яе генэральную лінію супроць усялякіх рознавіднасьцяй опортунізму.

Партвыхаваўчую работу з кандыдатамі і новым папаўненьнем партыі трэба выдзеліць у асобны вучастак работы, сконцэнтраваць усю ўвагу на гэтым вучастку, дабіўшыся поўнага ахопу іх партыйным выхаваньнем. Вучоба кандыдата павінна быць арганічнай часткай усёй сумы мерапрыемстваў, падрыхтоўваючых кандыдата да ўступленьня ў партыю. Усю сыстэму партвыхаваўчай работы трэба ўвязаць з вывучэньнем асабістых якасьцяй кандыдата, і праз прапагандысцкую сыстэму наладзіць работу па ўцягненьні рабочых, ударнікаў вытворчасьці, у партыю, праз партшколы дапамагчы новаму кандыдату ў выкананьні партабавязкаў.

Парторганізацыі Барысава для забясьпечаньня прадпрыемстваў рабочымі прапагандыстамі павінны правесьці падрыхтоўку іх праз курсавую сыстэму і такім чынам забясьпечыць усе цэхавыя і зьменныя ячэйкі стала працуючымі рабочымі прапагандыстамі. Для працуючых прапагандыстаў трэба арганізаваць на кожным буйным прадпрыемстве пропсэмінары, наладзіць іх работу, выходзячы з умоў кожнага прадпрыемства, разгрузіўшы іх ад іншых партабавязкаў і замацаваўшы за школай або гуртком, без адрыву на іншую работу.

У бліжэйшы-ж час паставіць грунтоўную прапрацоўку рашэньняў партыі, XVII партконфэрэнцыі, XIV зьезду, Сакавіцкага плэнуму ЦК КП(б)Б, апошніх пастаноў ЦК і СНК аб хлеба і жывёлазагатоўках, чарговых гаспадарча-палітычных задач, якія стаяць перад краінай, уцягваючы ў гэтую прапрацоўку шырокія масы рабочых і работніц, шырока разгарнуўшы найбольш жывыя формы партасьветы (ударныя дні вучобы, кароткатэрміновыя гурткі і інш.).

Толькі пры рашучай перабудове работы і кіраўніцтва марксысцка-ленінскім выхаваньнем парторганізацыя Барысаўшчыны здолее ліквідаваць ганебны прарыў, адзначаны ў пастанове сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб становішчы марксысцка-ленінскага выхаваньня на прадпрыемствах г. Барысава.

Д. О.

## ПРЫКЛАДЫ ДРЭННАЙ ЯКАСЬЦІ ПАРТАСЬВЕТЫ

*(З матэрыялаў абсьледваньня брыгадай Культпропу ЦК КП(б)Б партасьветы па г. Віцебску)*

Па горадзе Віцебску наша брыгада абсьледвала 4 прадпрыемствы: фабрыку „Сьцяг Індустрыялізацыі“ (новы швэйны гігант), абутковую ф-ку імя Лекерта, скурзавод, акулярную фабрыку.

Абсьледваныя прадпрыемствы характарызуюцца вялікім процантам новых папаўненьняў рабочых, у асноўным з вёскі, пры пераважным або значным процанце жанчын (фабрыка „Сьцяг Індустрыялізацыі“, Акулярная ф-ка).

Так, прынамсі, па соцпаходжаньні на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“ рабочых—2284, сялян—2096. На акулярнай ф-цы з 778 рабочых жанчын—506, на скурзаводзе з 556 рабочых жанчын—.04.

Мясцовыя організацыі прадпрыемстваў, нажаль, не вывучаюць дакладна соцпаходжаньня рабочых і нават (фабрыка „Сьцяг Індустрыялізацыі“) ня маюць дыфэрэнцыраванага ўліку колгасьнікаў і аднаасобных сялян.

Ясна, што наяўнасьць значнай колькасьці новых рабочых, выхадцаў з вёскі, моладзі і жанчын патрабуе асаблівай увагі да пастаноўкі політычна-выхаваўчай работы на гэтых прадпрыемствах. Між тым, асабліва на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“ і на скурзаводзе як масава-політычная работа, так і партыйная асьвета пастаўлены слаба.

На абсьледваных прадпрыемствах ёсьць выпадкі антысэмітызму і шовінізму. Шматтыражка фабрыкі „Сьцяг Індустрыялізацыі“ амаль што ў кожным нумары паведамляе аб гэтых фактах. Нажаль досыць часта ўдзельнікамі гэтых учынкаў зьяўляюцца

комсамольцы, паасобныя кандыдаты і члены партыі. На гэтай-жа фабрыцы быў нават зьняты з работы прапагандыст за шовінізм.

Вядома, асноўная маса рабочых аддана змагаецца за прамфінплян, аб чым сьведчыць рост ударніцтва, рост колькасьці гаспадарча-разьліковых брыгад, зьменна-сустрэчнага плянаваньня (акулярная ф-ка) за апошні час.

## „Аб XVII конфэрэнцыі гаварылі да таго, як я паступіў на фабрыку“

Адсталым, несьвядомым настроям некаторай часткі рабочых не супроцьпастаўлена на абсьледваных прадпрыемствах (асабліва на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“ і скурзаводзе) дастаткова шырокая агітацыйна-палітычная і прапагандысцкая работа.

*Як папулярызавана XVII партконфэрэнцыя і XIV зьезд партыі?* Гаварылі, вядома. Былі і адчыненыя сходы ячэек з дакладамі аб выніках конфэрэнцыі і зьезду; праводзіліся і гутаркі ў цэхах (праўда ня ўсюды, не на ўсіх прадпрыемствах і не па ўсіх цэхах); кажуць, нават, што і ў сетцы партасьветы прапрацоўваліся гэтыя пытаньні. Але судзіць трэба па выніках! Вынікі-ж такія, што многія слухачы партсеткі ня могуць адказаць на пытаньне, ці прапрацоўвалі яны XVII конфэрэнцыю ці не.

Адзін рабочы (цяпер ён навучаецца ў кандыдацкім гуртку) на пытаньне аб тым, ці былі на ф-цы („Сьцяг Індустрыялізацыі) даклады на агульна-фабрычным або цэхавым сходзе, або гутаркі ў цэху аб XVII конфэрэнцыі, і што ён наогул ведае аб XVII конфэрэнцыі, адказаў: „Ня ведаю, можа і гаварылі, але магчыма да таго, як я паступіў сюды на ф-ку. Па газэтах-жа я аб XVII конфэрэнцыі нічога ня ведаю, бо газэт ня чытаю“.

— З якога-ж ты часу працуеш на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“?

— 8 месяцаў.

Ён ужо 8 месяцаў працуе на фабрыцы і нічога ня чуў аб XVII конфэрэнцыі, якая адбылася 3 месяцы таму назад.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што работа па папулярызацыі пастаноў XVII партконфэрэнцыі, якія маюць сусьветна-гістарычнае значэньне, праводзілася формальна, павярхоўна, недастаткова, не сыстэматычна, бяз уліку асаблівасьцяй розных груп рабочых. Пастановы ня былі даведзены да кожнага рабочага.

Частка аб іх зусім ня ведае, частка не разумее, а, што яшчэ горш, частка разумее іх навыварат.

Так, у сэтцы партасьветы кандыдаты і члены партыі давалі нам такія адказы, што ў другой пяцігодцы мы будзем будаваць саўгасы і пертвараць сялян у рабочых саўгасаў, уводзіць для іх заработную плату і т. д.

А адзін кандыдат задае пытаньне: „У нас будзе бясклясавае грамадзтва, як-жа мы будзем падзяляць грамадзтва на клясы?"

А беспартыйны, прысутнічаючы на занятках, раптам выказваецца!

„За другую пяцігодку мы яшчэ не падыходзім да соцыялізму",

Другі беспартыйны: „Кляс у нас ня будзе, а як-жа мы будзем лічыць аднаасобных сялян?"

Усё гэта людзі, якія на сваім заводзе (скурзавод) мусіць нічога ня чулі аб другой пяцігодцы.

Ня лепш, а можа і горш, абстаіць справа з комсамолам. Горш, бо на занятках партыйных школ, на якіх мы прысутнічалі, усё-ж такі, побач з няправільнымі адказамі былі і правільныя. На занятках-жа комсамольскай школы на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі" з 20 чал. т о л ь к і 1 а д к а з в а ў здавальняюча на запытаньні.

Тут выказваліся наступным чынам: „рабочыя і сяляне—адна кляса". Адсюль зразумела, што: „У нас дзьве клясы—пролетарыят і буржуазія. Ліквідуем буржуазію, астаецца адна кляса".

Або—„Ліквідуем кулака, астаюцца дзьве клясы: пролетарыят у нас і буржуазія за граніцай".

Так прапрацавана XVII партконфэрэнцыя.

А апошнія важнейшыя пастановы партыі? Пастановы аб мяса і збожжазагатоўках? За час нашага прабываньня ў Віцебску (5 V—18-V) за іх популярызацыю яшчэ ня браліся (на абсьледваных прадпрыемствах), у той час, як некаторыя варожыя элемэнты ўжо імкнуліся растлумачыць іх адсталым рабочым „вкрывь и вкось".

## „На другім зьезьдзе былі разыходжаньні з Каўцкім"

А як абстаіць справа ў сярэднім зьвяне—у ВСПШ? Нам прышлося наглядаць вельмі цікавую, але, вядома, нехарактэрную для большасьці школ, карціну ў ВСПШ на скурзаводзе. Па сутнасьці, гэта была не ВСПШ, а гурток па гісторыі партыі. Пра-

працавалі курс да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але што ведаюць слухачы? Яны ведаюць, што: „На другім зьезьдзе былі разыходжаньні з Кауцкім, якога падтрымліваў Троцкі, па пытаньні аб статуце партыі“, што „другі зьезд выдатны тым, што на ім былі прадстаўнікі розных краін—Германіі і т. д.“ Нават таварыш, які правільна растлумачыў сутнасьць разыходжаньняў на другім зьезьдзе, кажа: „На другім зьезьдзе была большасьць меншавікоў, а не бальшавікоў. Ленін убачыў, што меншасьць бальшавікоў нічога ня можа зрабіць, і рашыўся на раскол“.

„Рэвалюцыя 1905 г. была буржуазнай рэвалюцыяй, бо супроць цара ішлі ўсе і ўдзельнічалі ўсе, г. зн. усе партыі. Буржуазія таксама ішла. Яна ішла супроць цара, але за буржуазную рэвалюцыю“.

А другі таварыш папраўляе: „Не, яны ішлі з мэтай здрадзіць, і потым рабочыя былі расстрэлены. Меншавік, поп Гапон, вёў іх да цара“. Прычыны паражэньня рэвалюцыі 1905 г. тлумачацца так: „Не вялося ніякай работы ў арміі і на вёсцы: вёска спала. Сялянства ня ўдзельнічала ў гэтай рэвалюцыі і т. д.“.

Пытаньне аб перарастаньні, аб рэвалюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства ніхто ў гуртку, нават тыя 2—3 чалавекі, якія здавальняюча адказвалі на іншыя пытаньні, не разумее.

Кажуць, што нават і пісьмо т. Сталіна прапрацоўвалі ў гэтым гуртку. І сапраўды, чалавекі два нешта аб гэтым пісьме ведаюць. Ведаюць, што Слуцкі гаварыў, што „бальшавікі толькі ў лютаўскай рэвалюцыі сталі авангардам, што ленінізм зьявіўся ў гады вайны, што Ленін—правадыр, але і Мартаў правадыр і Кауцкі таксама правадыр“ і т. д.

## Нічога дзіўнага ў гэтым няма

Але, нічога дзіўнага ў гэтым няма... Нельга вінаваціць слухачоў, калі сам кіраўнік блытае ў радзе асноўных пытаньняў гісторыі партыі. Напрыклад, калі адзін з слухачоў кажа, што бундаўцы былі за культурна-нацыянальную аўтономію, кіраўнік папраўляе: „Ня ведаю, ці высоўваў бунд лёзунг культурна-нацыянальнай

аўтономіі, бо Ленін сам-жа заўсёды быў за тое, каб даць усім нацыям магчымасьць разьвіваць сваю культуру.

Той-жа кіраўнік расказвае слухачом: „У пятым годзе быў выдадзены закон, які адмяніў рэнту (арэнду), якую сяляне плацілі памешчыкам“. Нам так і не ўдалося дабіцца ад гэтага кіраўніка растлумачэньня розьніцы паміж рэволюцыяй пролетарскай і буржуазна-дэмократычнай. Ён нічога не разумее ў пытаньні аб перарастаньні. Ва ўсім гэтым ён цалкам згаджаецца з блытанінай сваіх вучняў.

Пад нашым націскам ён дае наступны „дыплёматычны“ адказ, г. зн. спробу ўхіліцца ад адказу.

„Ленін гаварыў яшчэ ў 1905 г., калі мы пойдзем сумесна з сялянствам, дык потым зможам перарастаць. Можна больш практычна падыйсьці да гэтага пытаньня: у 1917 г. красавіцкія тэзісы аб пролетарскай рэволюцыі. Ленін казаў аб перарастаньні, іменна, у гэтым годзе, ад буржуазнай да пролетарскай рэволюцыі, высоўваючы нацыяналізацыю зямлі, комітэты беднаты і т. д., пролетарскую дыктатуру, саюз з сялянствам.

Буржуазная-ж рэволюцыя, возьмем рэволюцыю Керанскага, гэта чыста-буржуазная рэволюцыя“.

К і р а ў н і к  л і ч ы ў  с я б е  д а с т а т к о в а  п а д р ы х т а в а н ы м і за ўсю зіму не знайшлося чалавека, які-б гэту яго ўпэўненасьць у сабе пахіснуў. Бо за ўсю зіму ніхто ня прысутнічаў на яго занятках. Штатны пропагандыст гаркому, які адказвае за некалькі прадпрыемстваў і ў тым ліку за скурзавод, н а  з а н я т к а х  у  ш к о л а х  н я  б ы в а е,  б о  с а м  у  г э т ы я  д н і  в ы к л а д а е  ў  ВСПШ.

На жаль у сэнсе кіраўніцтва і кантролю работай пропагандыстаў ня лепш абстаіць справа і на астатніх абсьледваных прадпрыемствах.

## „Пакажыце правільнасьць генэральнай лініі партыі“

Што рабілася наогул гаркомам і партколектывамі ў сэнсе кіраўніцтва работай школ. Мы ня будзем гаварыць аб папяровых пастановах, якіх дастаткова, вядома, і ў ГК і ў партколектывах прадпрыемстваў. Праведзены ГК (і ГКК) 2 абсьледваньні работы з кандыдатамі і новым папаўненьнем партыі, але, нажаль, ужо к канцу зімовай вучобы; нажаль, пастановы, прынятыя пасьля

гэтых абсьледваньняў, не рэалізаваны або недастаткова рэалізаваны на абсьледваных прадпрыемствах.

Так, на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“ 237 чал. членаў і кандыдатаў (42 проц) былі ў пачатку навучальнага году ахоплены ўсімі формамі вучобы. Але на час абсьледваньня брыгадай культпропу ЦК сетка партыйнай асьветы, па сутнасьці, развалілася. За некалькі дзён да абсьледваньня арганізавана некалькі новых кандыдацкіх гурткоў, якія ахопліваюць 40 чал. (у арганізацыі больш 500 чал.).

На абутковай фабрыцы імя Лекерта—у пачатку году з 289 чал. ахоплены ўсімі відамі вучобы 205 чал., на дзень абсьледваньня—73 чал.

На акулярнай ф-цы з 158 чал. ахоплена 88 чал.

На скурзаводзе з 135 чал.—85.

Вядома, і гэта ня поўная карціна, бо трэба ўлічыць слабую наведваемасьць, частыя зрывы заняткаў і т. д.

А як з вучобай кандыдатаў?

На акулярнай ф-цы з 64 чал. ахоплена формальна 20 чал., прысутнічае на занятках у сярэднім чал. 8. На скурзаводзе з 66 кандыдатаў—вучыцца 37. На абутковай—формальна ахоплена 50 проц.

Гэткім чынам пастановы кіруючых партыйных арганізацый у значнай ступені асталіся на паперы. Ня было галоўнага: дастатковага, штодзённага, опэрацыйнага кіраўніцтва як у сэнсе арганізацыйным, так і ў сэнсе мэтодычным. Дом Комасьветы рабіў спробы паставіць мэтодычнае кіраўніцтва. Склікаліся консультацыі для пропагандыстаў розных тыпаў партшкол. Але наведваньне гэтых консультацый было слабое: прыходзіла часта па 2—3 чал., амаль усюды консультацыі зрываліся. Мэтод-бюро гаркому выпрацоўвала для пропагандыстаў кандыдацкіх школ, першапачатковых і ВСПШ заданьні. У а с н о ў н ы м гэта ня дрэнных заданьні, хаця і ў некаторых ёсьць памылкі мэтодычнага і палітычнага характару. Так, напрыклад, ставіцца пытаньне „Ці зьнімаецца нашай партыяй пытаньне барацьбы з правым ухілам у другой пяцігодцы?“ А аб барацьбе з „левымі“ ў другой пяцігодцы ні слова. Або пытаньне: „Ці сумяшчальны трацкісцкія погляды з прабываньнем у партыі?“ Аб несумяшчальнасьці праваопортуністычных поглядаў з прабываньнем у радох партыі ў гэтым заданьні ні слова.

Але найбольш цікавай з мэтодычнага і палітычнага боку зьяўляецца наступная формуліроўка ў заданьні таго-ж аўтара „Барацьба на два фронты“ для кандыдацкіх школ.

„Пакажыце прыклады як саюзнага маштабу, так і мясцовага—гораду, заводу, фабрыкі, колгасу, установы—сьцвярджаючыя правільнасьць генэральнай лініі партыі“(!).

Што гэта такое? Гэта старая спроба пад выглядам „актывізацыі“ мэтодаў выкладаньня разводзіць з малапісьменнымі слухачамі дыскусіі аб правільнасьці генэральнай лініі партыі. Гэтым мэтодам „колізіяў“ у свой час славіўся закрыты цяпер інстытут у Маскве, які стаяў на чале „лявацкіх“ спроб адыйсьці ад марксызму-ленінізму ў пэдагогіцы.

Об'ектыўна вышэй прыведзеная формуліроўка ёсьць ухіленьне да мэтаду „колізіяў“.

Мэтод-бюро ГК зацьвердзіла-ж гэта заданьне! Гэта было, бязумоўна, палітычнай памылкай.

## Трохі нацполітыкі

Вельмі дрэннае ўражаньне асталося ў нас ад таго, як уяўляюць сабе слухачы нацыянальную палітыку партыі. Вядома, самае элемэнтарнае зразумела і партыйцам і беспартыйным і комсамольцам. Было-б дзіўна, каб на 15 год савецкай улады рабочыя ня ведалі аб тым, што савецкая ўлада „дае магчымасьць усім нацыям разьвіваць сваю культуру, гаварыць на сваёй мове і т. д“...

Але ў пытаньнях хаця-б трохі больш складаных вельмі вялікая блытаніна.

Рад проста анэкдотычных адказаў, рад адказаў, якія сьведчаць аб сур'ёзнай небясьпецы.

Так: „мясцовы шовінізм, гэта той шовінізм, які ёсьць у нас на месцы, на нашым заводзе; вялікарасійскі шовінізм—гэта розныя шовінізмы ўсюды, па ўсім СССР, і таму гэты ўхіл больш небясьпечны“.

„Антысэмітызм—гэта нянавісьць аднэй нацыі да другой нацыі, шовінізм—нянавісьць да сваёй уласнай нацыі“ (адказ комсамолкі).

„Нацдэмы гаварылі, што трэба гутарыць толькі па-руску, яны-ж соцыял-дэмократы“ (кандыдаты КСМ).

Але ёсьць адказы, якія сьведчаць аб тым, што слухачы, хаця і ведаюць нешта аб нацдэмах, але ведаюць так, што па сутнасьці недаацэньваюць контррэволюцыйнасьці нацыянал-дэмократаў.

„Нацдэмы выступалі супроць рускай літаратуры“.

„Нацдэмы, яны аб клясавасьці ня пішуць, што скінулі цара ня пішуць.

Яны контррэволюцыянэры таму, што нічога ня пісалі аб нашым жыцьці, а ўсё пра старое“.

Наогул—нацдэмы гэта нешта досыць „лібэральнае“,—бяззубае. Для ўсяго гуртка поўнай навіной зьявілася тое, што нацдэмы жадалі падрыхтаваць падзеньне савецкай улады пры дапамозе інтэрвэнцыі, што яны трымалі сувязь з польскім фашызмам і т. д.

Ясна, што гэта блытаніна вядзе да недаацэнкі нацдэмаўскай небясьпекі.

Але яшчэ горш абстаіць справа з разуменьнем сутнасьці вялікадзяржаўнага шовінізму: тут зусім цёмнае месца.

Ня лепшае разуменьне нацыянальнай політыкі партыі мы сустрэлі і ў комсамольскім гуртку.

Тут найбольш запомніўся адказ аднэй комсамолкі, якая ня так даўно прышла на фабрыку з вёскі (трэба помніць аб тым, што гутарка адбывалася пасьля заканчэньня програмы школы).

„Царскі ўрад праводзіў такую політыку, што не дазваляў вывучаць розныя мовы: яўрэі—дык сваю мову вывучайце, рускія—сваю мову, палякі—сваю і т. д.“.

Наогул, як відаць, гэтаму таварышу, які па сваім узросьце ня мог наглядаць царскай „турмы народаў“, здаецца, што нацполітыка царскага ўраду мала чым адрозьнівалася ад політыкі савецкай улады.

## „У нас усё чытаюць і чытаюць“

Але трэба ўсё-ж такі памятаць, што гэтыя адказы даюцца ў канцы навучальнага году, пасьля заканчэньня програмы.

Тыя-ж комсамольцы на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“ (пагалоўна ўсе 20 чал.) імкнуліся нас упэўніць, што лёзунгам партыі на вёсцы на даным этапе зьяўляецца: „апора на беднату, саюз з серадняком, барацьба з кулаком...“

У чым-жа справа?

Кажуць, што дрэнна наведвалі заняткі, многа прапускоў. Правільна. Але чаму дрэнна наведвалі? Кажуць „Кіраўнік дрэнны, ня цікава слухаць“. Але чым кіраўнік дрэнны? Ня ўсюды-ж кіраўнік няпісьменны! Хаця трэба сказаць, што значны процант кіраўнікоў недастаткова здавальняюча падрыхтаваны. Вядома, такія кіраўнікі як на скурзаводзе ўсё-ж такі параўнаўча рэдкая зьява.

Але тут ёсьць яшчэ адна акалічнасьць, якая ператварае заняткі ў цяжкі абавязак. Гэта—мэтод заняткаў.

Комсамольцы на фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“, калі ім паставілі пытаньне: „Таварышы, чаму вы так слаба разьбіраецеся ў самых элемэнтарных пытаньнях палітыкі партыі, цяпер, пасьля сканчэньня школы?“—адказалі: „Ды ў нас усё чыталі і чыталі. Пачытаюць—ды разыйдуцца. Нам абрыдлі ўжо гэтыя чытанкі“.

А як адбываюцца гэтыя чытанкі, нам прышлося наглядаць на тэй-жа фабрыцы „Сьцяг Індустрыялізацыі“ ў кандыдацкім гуртку.

Уявіце сабе невялічкі пакойчык, які аддзелен ад цэху фанернай перагародкай. Машыны гудзяць... людзі толькі што пасьля работы. Падручнік адзін на 15 чал. Чытае адзін... За 2 крокі ад стала ўжо амаль нічога ня чуваць. Спаць хочацца... Людзі зяваюць, клююць носам, некаторыя ня вытрымліваюць і выходзяць праветрыцца.

Справа тармозіцца некаторымі „дробязямі“ (падручнікі, памяшканьне, разьбіўка на брыгады)—якія пры менш бюрократычным падыходзе да партыйнай вучобы („абы займаліся“) можна было-б устараніць.

## Агульныя вывады

Вядома, было-б няправільна рабіць вывад, што ва ўсіх школах справа абстаіць дрэнна, што школы нічога не далі, што мы ня маем росту палітычнага ўзроўню членаў і кандыдатаў партыі і т. д.

Ёсьць, бязумоўна, школы, якія здавальняюча прайшлі праграму, якія далі добрыя вынікі, якія ня мелі значнага адсеву і т. д. Ды і апрача школы, штодзенная практыка соцыялістычнага будаўніцтва садзейнічае росту палітычнай сьвядомасьці членаў і кандыдатаў партыі, комсамолу, беспартыйных рабочых.

Але, нажаль, трэба сказаць, што вышэйпрыведзеныя прыклады не зьяўляюцца штучна падабранымі „фактыкамі". Гэта досыць пашыраная зьява. Школы далёка яшчэ не даюць таго, што яны маглі-б даць пры больш конкрэтным, опэратыўным кіраўніцтве іх работай з боку паргорганаў, у сэнсе падбору пропагандыстаў, мэтодычнай дапамогі ім—штодзённага контроляваньня зьместу выкладаньня, клопатаў аб радзе організацыйных дробязяй.

---

## НАВУЧАЛЬНЫ ПЛЯН 2-МЕСЯЧНЫХ І МЕСЯЧНЫХ КУРСАЎ ПАДРЫХТОЎКІ І ПЕРАПАДРЫХТОЎКІ НІЗАВОГА АКТЫВУ І РАБОЧЫХ ПРОПАГАНДЫСТАЎ

### Аб'яськяльная запіска

Асноўнай устаноўкай курсаў нізавога партактыву і рабочых-пропагандыстаў зьяўляецца падрыхтоўка работнікаў для асобных вучасткаў партыйнай, пропагандысцкай і савецка-гаспадарчай работы ў нізавых яе зьвеньнях, мобілізацыя іх на выкананьне чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Задача курсаў—навучыць нізавога партыйнага работніка і пропагандыста-рабочага ўвязваць рэволюцыйную тэорыю з рэволюцыйнай практыкай, паказаць, што вышэйшым выражэньнем гэтага адзінства зьяўляецца ЦК УсеКП(б). Усе пытаньні програмы павінны разглядацца не абстрактна, а ў самай цеснай сувязі і на аснове сучаснага этапу будаўніцтва соцыялізму і чарговых задач КП(б)Б.

Навучальны плян 2-месячных курсаў партактыву і рабочых-пропагандыстаў разьлічан на 400 гадзін, а для месячных курсаў на 240. Асноўныя разьдзелы яго наступныя (колькасьць гадзін паказана ў 2-х варыянтах для 2-х і 1-месячных курсаў):

а) Уступная лекцыя аб значэньні марксыцка-ленінскай тэорыі і чарговых задачах марксыцка-ленінскага выхаваньня . . . . . . . . . . —4 гадзіны
б) Партыя . . . . . . . . . . —120|80 „
в) Асноўныя пытаньні будаўніцтва соцыялізму і 2-ая пяцігодка, у прыватнасьці пяцігодка БССР . . —100|60 „
г) Асноўныя законы разьвіцьця супярэчнасьцяй капіталізму (асновы політэкономіі) . . . . —60|25 „
д) Партбудаўніцтва (для курсаў партактыву і курсаў пропагандыстаў) . . . . . . . . —40|20 „
е) Нацыянальнае пытаньне . . . . . —20|10 „
ж) Організацыя і мэтодыка партасьветы (для курсаў пропагандыстаў) . . . . . . . . —40|20 „
з) Навыкі самастойнай работы (уменьне чытаць беларускія і рускія кнігі і газэты. Уменьне знайсьці галоўнае з прачытанага, рабочы запіс, конспэкт, тэзісы) —20|15 гадз.
400 гадз.|240

## Цэнтральны пункт програмы, гэта пытаньне аб партыі

Асноўныя, этапы разьвіцьця бальшавізму, вызначаныя ў тэме „Партыя", павінны паказаць слухачу на міжнародны характар бальшавізму, тое, што бальшавізм узьнік, разьвіваўся і перамагае на аснове рашучай барацьбы на два фронты супроць адхіленьняў ад пасьлядоўнай ленінскай лініі, паказаць сутнасьць троцкізму, як перадавога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі, як гэта падкрэсьлена ў пісьме т. Сталіна. Таму ўсе разьдзелы тэмы „Партыя" павінны прапрацоўвацца выходзячы з пісьма т. Сталіна аб гісторыі бальшавізму, і прапрацоўка тэмы павінна распачацца з гэтага пісьма.

Апошнім пунктам гэтай тэмы зьяўляецца пытаньне ленінізму „вучэньне марксызму-ленінізму аб пролетарскай рэволюцыі, дыктатуры пролетарыяту". Трэба супроцьпаставіць тэорыю і практыку Комінтэрну тэорыі і практыцы соцыял-фашызму.

Наступныя тэмы: „Асноўныя пытаньні будаўніцтва соцыялізму і 2-я пяцігодка" і „Асноўныя законы разьвіцьця супярэчнасьцяй капіталізму" павінны даць слухачу паглыбленае разуменьне сучаснага этапу будаўніцтва соцыялізму і сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, якое выражаецца ў словах. „Два сьветы—дзьве сыстэмы".

Было б мэтазгодна, каб гэтыя 2 тэмы прапрацоўваць не адну пасьля другой, а паралельна. Так, напрыклад, з аднаго боку слухач вывучае асноўныя законамернасьці экономікі СССР, як экономікі пераходнага пэрыоду, з другога—асноўныя законы разьвіцьця супярэчнасьцяй капіталізму і крызісы; пытаньне аб апошнім этапе нэпу—этапе ўступленьня ў пэрыод соцыялізму, а з другога боку, пытаньне аб усеагульным крызісе капіталізму і т. д.

Ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб прапрацоўка гэтых тэм прыняла абстрактна-акадэмічны характар (паасобныя прадметы, ня зьвязаныя з сучаснасьцю, ня зьвязаныя паміж сабою, і прадметы, якія даюць кавалкі абстрактных ведаў).

У тэме „Асноўныя пытаньні будаўніцтва соцыялізму" павінна быць асобным пунктам прапрацавана экономіка данай галіны прамысловасьці, транспорту і с.-г. Гэта неабходна правесьці як на курсах нізавога партактыву, так і на курсах пропагандыстаў. Таксама гаворачы аб чарговых задачах соцыялістычнага будаў-

ніцтва на 1932 г., неабходна паглыблена прапрацаваць апошнія пастановы аб збожжазагатоўках, мясазагатоўках, разгортваньні колгаснага гандлю.

Асобнай тэмай выдзяляецца нацыянальнае пытаньне, дзе павінны быць разгледжаны тэорэтычныя асновы і практыка марксызму-ленінізму ў нацпытаньні, выпрацаваныя ў супроцьвагу і ў барацьбе з усялякага віду опортунізмам. Паказаць барацьбу ленінізму з люксэмбургіянцтвам у нацпытаньні. Тэорыю і практыку соцфашызму і трацкізму ў нацпытаньні і барацьбу з імі бальшавізму. Барацьба на 2 фронты ў нацпытаньні з адхіленьнямі ад ленінскай лініі ў сучасны пэрыод будаўніцтва соцыялізму.

Курс партбудаўніцтва для курсаў партактыву трэба максымальна ўвязаць з практычнымі задачамі данага раёну, данай галіны партработы. На аднамесячных курсах пропагандыстаў у тэме „Партбудаўніцтва" прапрацоўваюцца галоўным чынам апошнія пастановы партыі аб чарговых задачах партыйна масавай работы.

У тэме „Організацыя і мэтодыка партасьветы" асаблівую ўвагу зьвярнуць на работу з новымі папаўненьнямі.

Навыкі самастойнай работы ўвязаць з павышэньнем ведаў па белмове.

Мэтод заняткаў курсаў:

1. Па агульна-тэорэтычных пытаньнях: уступнае слова кіраўніка, якое-б не абмяжоўвалася голымі „ўстаноўкамі", а давала чотка сформуліраваныя выходныя моманты (адказы) па асноўных пытаньнях тэмы. Трэба, каб рабочы пропагандыст, або нізавы партработнік, не капаўся па матэрыялах, маючы толькі адны голыя ўстаноўкі, якія раюць знайсьці адказ на такое-та пытаньне, пацікавіцца такім-та пытаньнем і т. д.

Самастойная прапрацоўка. Ня трэба перагружаць слухача колькасьцю старонак. Лепш даць толькі асноўны матэрыял, але дабіцца высокай якасьці яго прапрацоўкі, прадуманасьці. Паказаць тут-жа пры прапрацоўцы гэтага матэрыялу, як трэба працаваць над кнігай, як рыхтавацца да заняткаў (патрабаваць абавязковага конспэкту, запісу прапрацоўваемага матэрыялу.)

Заключная разгорнутая гутарка. Прачытаць вытрымкі з Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, нарысаваць дыяграму, абгаварыць спрэчныя пытаньні, перадаць слухачу дадатковы матэрыял і т. д.

2. У такіх тэмах, як „Партбудаўніцтва", „Організацыя і мэтодыка партасьветы" і „Навыкі самастойнай работы" трэба максы-

мальна скарыстоўваць практычныя заданьні: справаздачы т. т. з лчэек, раёнаў аб становішчы работы ў іх, аб тым, якія формы і мэтоды работы імі прымяняліся. Даць рабочаму пропагандысту заданьне правесьці паказальныя заняткі ў мясцовай ячэйцы, гуртку.

Да гэтых заняткаў дапамагчы яму належным чынам падрыхтавацца (падбор мясцовага матэрыялу, складаньне конспэкту і т. д.), потым абгаварыць, як ён правёў заняткі на курсах. На курсах трэба выпускаць насьценгазэту і паставіць задачу, каб рабочы пропагандыст быў ініцыятарам выпуску насьценгазэты ў сваёй школе, гуртку і т. д.

## Навучальны плян курсаў пропагандыстаў і нізавога партактыву

*(Для курсавых баз, летніх курсаў перападрыхтоўкі і падрыхтоўкі)*

**I. Уступная лекцыя аб значэньні марксысцка-ленінскай тэорыі і чарговых задачах марксысцка-ленінскага выхаваньня**

**II. Партыя**

1. Пісьмо т. Сталіна ў рэдакцыю „Пролетарская революция“ (міжнародны характар бальшавізму).
2. Падрыхтоўка і аформленьне бальшавізму.
3. Партыя ў пэрыод буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі*).
4. Партыя на шляхох да пролетарскай рэволюцыі *).
5. Партыя ў аднаўленчы і рэконструкцыйны пэрыод.
6. Партыя ў пэрыод апошняга этапу нэпу—этапу ўступленьня ў пэрыод соцыялізму.
7. Вучэньне марксызму-ленінізму аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту.

**III. Асноўныя пытаньні будаўніцтва соцыялізму і 2-я пяцігодка**

1. Асноўныя законамернасьці экономікі СССР, як экономікі пераходнага пэрыоду.

---

*) Тут асоба спыніцца на ленінскім вучэньні аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную; на пытаньні аб партыі ў гады імпэрыялістычнай вайны.





2. Соцыялістычная індустрыялізацыя, яе значэньне ў пабудове соцыялізму.

3. Соцыялістычная рэконструкцыя с.-г.

4. Сучасны этап нэпу, завяршэньня пабудовы фундаманту соцэкономікі і ўступленьне ў пэрыод соцыялізму.

5. Завяршэньне першай і задачы другой пяцігодкі.

6. Клясы і клясавая барацьба ў 2-й пяцігодцы. Партыя.

7. Пытаньне аб дзяржаве ў другой пяцігодцы ў сьвятле марксысцка-ленінскага вучэньня аб дзяржаве.

8. Савецкі гандаль і грошы ў 2-й пяцігодцы.

9. Праца на сучасным этапе і палепшаньне матэрыяльна-бытавых умоў рабочых і працоўнага сялянства.

10. Конкрэтная экономіка паасобных галін прамысловасьці і транспорту.

IV. Асноўныя законы разьвіцьця супярэчнасьцяй капіталізму

а) Тавар і грошы.

б) Сутнасьць капіталістычнай эксплёатацыі.

в) Усеагульны закон капіталістычнага накапленьня.

г) Асноўныя законы капітаііст. узнаўленьня і крызісы.

д) Імпэрыялізм і ўсеагульны крызіс капіталізму.

е) Сучасны этап усеагульнага крызісу капіталізму і нарастаньне прадпасылак рэволюцыйнага крызісу.

V. Партбудаўніцтва

1). Вучэньне Маркса-Леніна-Сталіна аб партыі і організацыйных прынцыпах бальшавізму.

2. Адзінства партыі і барацьба на 2 фронты.

3. Роля партыі ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту.

4. Перабудова партмасавай работы і задачы парторганізацыі ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. Увязка партмасавай работы з задачамі партасьветы.

VI. Нацыянальнае пытаньне (гл. мэтодраспрацоўку. Выданьне Культпропу ЦК КП(б)Б)

VII. Організацыя і мэтодыка партасьветы

1. Пропаганда—баявая зброя партыі.

2. Партасьвета на сучасным этапе.

3. Організацыя партасьветы.

4. Мэтодыка партасьветы.

5. Самаадукацыя, завочнае навучаньне і формы кіраўніцтва імі.

6. Пропагандыст і работа з ім.

7. Элемэнты ваенізацыі ў сыстэме партасьветы.

8. Работа з новымі папаўненьнямі партыі.

**VI I. Навыкі самастойнай работы**

---

## АПОШНІЯ ПАСТАНОВЫ ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, ЦК КП(б)Б і СНК БССР

(Мэтодраспрацоўка)

## Загатоўкі, разгортваньне колгаснага гандлю і с.-г. падатак на 1932 г.

Апублікаваныя за апошні час пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб збожжа і жывёлазагатоўках, аб разгортваньні колгаснага гандлю і новы закон аб сельскагаспадарчым падатку на 1932 г. набываюць значэньне вялізарнай важнасьці гістарычных дакумантаў, якія будуць мець вельмі важныя рэзультаты для далейшага разьвіцьця нашай краіны па шляху да социялізму.

Значэньне гэтых пастаноў заключаецца ў тым, што яны разьлічаны на яшчэ большае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў у іх асноўнай для данага этапу арцельнай форме разьвіцьця, на шырокае разгортваньне гаспадарчай ініцыятывы і самадзейнасьці самых шырокіх колгасных мас, на падняцьце таварнасьці соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, на стварэньне новага магутнага вытворчага ўздыму, на далейшае разгортваньне савецкага тавараабароту і на палепшаньне, на аснове ўсяго гэтага, дабрабыту рабочай клясы, калгасьнікаў, беднякоў і серадкякоў—аднаасобнікаў.

Гэтыя пастановы зьяўляюцца выражэньнем правільнасьці генэральнай лініі партыі, паказальнікам вялізарных перамог соцыялістычнага будаўніцтва, далейшым працягам і разьвіцьцём лініі партыі на соцыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі, на ліквідацыю кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, лініі, якая намечана ў рашэньнях XVI зьезду УсеКП(б), XVII партконфэрэнцыі, XIV зьезду КП(б)Б, апошніх пленумаў

ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, выступленьнях т. Сталіна, за ажыцьцяўленьне якіх партыя змагаецца з усімі ворагамі соцбудаўніцтва; з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з контррэволюцыйным трацкізмам і ўсякага віду опортунізмам. У сваіх апошніх пастановах партыя выходзіць з тых суадносін клясавых сіл, якія ёсьць зараз у нашай краіне, з таго, што пытаньне „хто каго“ вырашана канчаткова на карысьць соцыялізму як у горадзе, так і на вёсцы, з таго, што соцыялістычная сыстэма гаспадаркі заняла пануючае месца ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы.

„У сувязі з гэтай акалічнасьцю савецкая ўлада атрымала магчымасьць побач з мэтодам дзяржаўных збожжазагатовак практыкаваць, як сродак снабжэньня гарадзкога насельніцтва, іншы мэтод, мэтод гандлю хлебам самімі колгасамі і колгасьнікамі“ (Пастанова ЦК і СНК). Новае заключаецца ў тым, што цяпер перад партыяй стаіць задача „спалучыць гэтыя два мэтоды і разгарнуць колгасны гандаль хлебам за кошт некаторага скарачэньня дзяржаўных збожжазагатовак па сялянскім сэктары, павялічыўшы адначасова іх па саўгасным сэктары“ (там-жа). У адпаведнасьці з гэтым пастанова ЦК і СНК ад 10|V і ў галіне жывёлазагатовак памяншае ў два разы дзяржаўны плян на астатнія тры кварталы 1932 г. для колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных гаспадарак, павялічваючы адначасова плян здачы жывёлы саўгасамі, і прызнае мэтазгодным „даць колгасам, колгасьнікам і аднаасобнікам, якія акуратна выконваюць цэнтралізаваны плян жывёлазагатовак, поўную магчымасьць бесьперашкоднага продажу буйной жывёлы, сьвіней, авец, усякай птушкі і мясной продукцыі сваіх гаспадарак па рынках, базарах і праз колгасныя крамы“, а таксама і збожжа па тых цэнах, якія будуць складацца на рынку.

Задачы разгортваньня колгаснага гандлю, стымуляваньня гаспадарчай ініцыятывы і самадзейнасьці колгасьнікаў падпарадкаван і новы закон аб с.-г. падатку, які цалкам вызваляе ад абкладаньня даходы колгасаў, колгасьнікаў ад продажу с.-г. продуктаў праз колгасныя ларкі і колгасныя базары і значна зьмяншае абкладаньне аднаасобнікаў.

Ажыцьцяўленьне ўказаных пастаноў партыі і ўраду паслужыць магутным вагаром для далейшага організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгаснага руху, асноўнай формай якога на даным этапе зьяўляецца с.-г. арцель. Было-б бязумоўна вялікай памылкай

разглядаць задачу разгортваньня колгаснага гандлю ізалявана ад задачы організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Гэта ня дзьве розныя задачы, гэта два бакі аднэй і тэй-жа задачы социялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. „Колгасны гандаль робіцца важнейшым сродкам паскарэньня тавараабароту і організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў“ (З перадавой „Правды“ ад 12|V). Пад колгас, як самастойную гаспадарчую адзінку, гэтыя мерапрыемствы падводзяць мацнейшы экономічны фундамант.

Барацьба за разгортваньне колгаснага гандлю павінна быць аднвчасова самай жорсткай барацьбой з клясава-варожымі нам элемэнтамі, з прыватнікамі, з перакупшчыкамі—спэкулянтамі, якія паспрабуюць нажыцца на гэтым, самай жорсткай барацьбой з усякімі адхіленьнямі ад ленінскай лініі, супроць правага ўхілу—галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „лявацкіх“ супраціўленьняў разгортваньню колгаснага гандлю, супроць „лявацкіх“ спроб пераскачыць праз няпройдзеную яшчэ арцельную форму колгаснага руху.

## Плян прапрацоўкі тэмы

**I. Апошнія пастановы партыі і ўраду—мерапрыемствы вялізарнага гаспадарча-політычнага значэньня**

1. Значэньне гэтых пастаноў:

а) для задач далейшага організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў;

б) для далейшага яшчэ больш хуткага ўздыму зернавой гаспадаркі;

в) для разгортваньня савецкага гандлю і важнейшага зьвяна яго—колгаснага гандлю;

г) для бальшавіцкага вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі;

д) для палепшаньня на гэтай аснове дабрабыту рабочай клясы, колгаснага і працоўнага сялянства.

2. Значэньне гэтых пастаноў як падвядзеньне вынікаў буйнейшых перамог партыі ў барацьбе за хлеб, у барацьбе за социялізм.

**II. Апошнія мерапрыемствы партыі і ўраду органічна зьвязаны з генэральнай лініяй партыі і цалкам з яе выцякаюць.**

1. Хлебныя цяжкасьці 1928 г., раздробненасьць і нізкая таварнасьць сельскай гаспадаркі, як іх прычына.

2. Скарыстаньне гэтых цяжкасьцяй капіталістычнымі элемэнтамі вёскі.

3. Трацкісцкі і праваопортуністычны „пляны“ выхаду з хлебных цяжкасьцяй.

4. Сформуляваная т. Сталіным у 1928 г. на падставе ленінскага вучэньня задача пераводу дробнасялянскай гаспадаркі на рэльсы буйной соцыялістычнай вытворчасьці была бальшавіцкім шляхам выхаду з хлебных цяжкасьцяй.

5. Перамогі партыі на гэтым шляху і пераход на гэтай аснове, ад політыкі выцясьненьня і абмежаваньня эксплёагатарскіх тэндэнцый кулацтва да ліквідацыі яго на базе суцэльнай колектывізацыі.

6. Падзеньне ўдзельнай вагі кулацтва ў загатоўках і вялізарнейшы рост ролі ў загатоўках колгасаў і саўгасаў, як выражэньне „перамогі саўгаснай і колгаснай сыстэмы гаспадаркі над сыстэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элемэнтаў у вёсцы“ (Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 6|V).

7. Выхад краіны, дзякуючы гэтаму, з крызісу зернавой гаспадаркі і пасьпяховае перамаганьне цяжкасьцяй, выкліканых засухай мінулага году.

8. Магчымасьці, створаныя на гэтай аснове, для разгортваньня колгаснага гандлю і для скарачэньня дзяржаўных плянаў збожжа і жывёлазагатовак.

9. Асаблівасьці соцыяльна-эканомічнай абстаноўкі ў нашай краіне, якія дазваляюць нам ажыцьцявіць гэтыя мерапрыемствы:

а) нябывалы яшчэ рост політычнай актыўнасьці рабочай клясы;

б) вялізарнейшы аўторытэт партыі сярод шырокіх мас колгасьнікаў і аднаасобнікаў;

в) „Такога становішча, якое было ў 1928 г., калі кулацтва спэкулявала на нашых цяжкасьцях, затрымліваючы ў сваіх руках таварную продукцыю, спрабавала павесьці за сабой масы сялянства, цяпер быць ня можа“ („Известия“ ад 14/V 32 г.).

10. Задача далейшага організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у іх сучаснай форме с.-г. арцелі, задача барацьбы з „лявацкімі“ спробамі прымусова аграмаджваць жывёлу колгасьнікаў, значэньне ў гэтым напрамку пастаноў ЦК УсеКП(б) ад 4/II і 26/III 32 г., цесная органічная сувязь паміж гэтымі пастановамі і апошнімі пастановамі ЦК і СНК.

11. Партыя дабілася гэтых перамог у бязьлітаснай барацьбе з клясавым ворагам, з контррэволюцыйным трацкізмам, з правым

ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з опортунізмам усіх колераў, прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам у адносінах да яго.

**III. „Пастанова ЦК і СНК адкрывае сабой новую старонку ў збожжазагатоўчай політыцы партыі“ („Правда“ ад 8/V-32 г.).**

1. Скарачэньне дзяржаўнага пляну збожжазагатовак па колгасах і аднаасобных гаспадарках.

2. Павялічэньне збожжазагатоўчага пляну па саўгаснай сыстэме.

3. Неабходнасьць сканчэньня выкананьня пляну загатовак не пазьней 1 студзеня і ствар эньня насенных фондаў у колгасах не пазьней 15 студзеня 1933 г.

4. Прадастаўленьне поўнай магчымасьці колгасам і колгасьнікам пасьля гэтых тэрмінаў „бесьперашкоднага продажу лішкаў свайго збожжа па сваім поглядзе“ (Пастанова ЦК).

5. Колгасны гандаль збожжам як важнейшая дадатковая крыніца снабжэньня працоўных.

**IV. Аб пляне жывёлазагатовак і аб мясным гандлі колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян**

1. Органічная сувязь паміж гэтым мерапрыемствам і пастановай ЦК і СНК ад 6-V—32 г.

2. Зьмяншэньне па СССР у два разы дзяржаўнага пляну жывёлазагатовак на апошнія 3 кварталы 1932 г. для колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных гаспадарак.

3. Павялічэньне пляну здачы жывёлы саўгасамі.

„Прадастаўляючы колгасу, колгасьніку і аднаасобна працоўнаму права выконваць плян жывёлазагатовак любым відам жывёлы, партыя і ўрад даюць ім гэтым самым магчымасьць манэўраваць, разьвіваючы тыя віды жывёлагадоўлі, якія найбольш прымяняльны ў даных конкрэтных мясцовых умовах“ („Известия“ ад 14-V).

4. Адмен усякіх абмежаваньняў па забоі буйной рагатай і дробнай жывёлы.

5. Прадастаўленьне колгасьнікам і аднаасобнікам, якія акуратна выконваюць цэнтралізаваны плян мясазагатовак, поўнай магчымасьці бесьперашкоднага продажу мясной продукцыі сваіх гаспадарак.

## V. Дэкрэт аб сельскагаспадарчым падатку на 1932 г.

1. Падатковая сыстэма ў нас і ў капіталістычных краінах.

а) „У капіталістаў падатковая сыстэма зьяўляецца адным з моцных сродкаў прыгнечаньня і эксплёатацыі самых шырокіх мас працоўных“;

б) „У Краіне саветаў падатковая палітыка зьяўляецца вагаром, які садзейнічае вырашэньню чарговых задач партыі і Савецкай улады ў галіне індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі“ („Правда“ ад 7-V).

2. Закон аб сельгаспадатку на 1932 г. як сродак далейшага організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у іх сучаснай арцельнай форме:

а) перавагі колгасам перад аднаасобнымі гаспадаркамі;

б) перавагі арцелям перад ТАЗ-амі (таварыствамі па супольнай апрацоўцы зямлі).

3. Задача далейшага разьвіцьця зернавой гаспадаркі стымулюецца вызваленьнем ад падатку прыросту пасеваў па цаліне.

4. Стымуляваньне новым законам далейшага разьвіцьця жывёлагадоўлі:

а) жывёла ўсіх відаў у колгасах не абкладаецца;

б) таксама і жывёла, якая знаходзіцца ў асабістым карыстаньні колгасьнікаў;

в) поўнасьцю вызвалены ад сельгаспадатку ўсе даходы колгасных таварных фэрм;

г) створаны рад ільгот для разьвіцьця пасеваў траў і кармовых кораньплодаў.

5. Значэньне новага закону аб сельгаспадатку для:

а) разгортваньня колгаснага гандлю;

б) разьвіцьця тэхнічных культур;

в) сваячасовага выкананьня вытворчых і загатоўчых плянаў.

6. Клясавая сутнасьць новага закону аб сельгаспадатку:

а) індывідуальнае абкладаньне кулацкіх гаспадарак;

б) прызнакі кулацкіх гаспадарак ва ўмовах БССР;

в) „Супроць усякіх спроб тымі ці іншымі шляхамі паменшыць абкладаньне кулацкіх гаспадарак—змагацца з усёй рашучасьцю як супроць праяў яўна опортуністычнай, антыпролетарскай практыкі“;

г) „У той-жа час весьці рашучую барацьбу з „левымі“ загібамі, са спробамі, якія мелі месца ў мінулым годзе, абкладаць

серадняцкія гаспадаркі ў індывідуальным пэрадку" („Правда" ад 7-V);

д) „Неабходна змагацца супроць праваопортуністычных спроб выхаласьціць палітычны зьмест і змазаць палітычную сутнасьць новага закону, спроб зьвесьці яго да сумы звычайных ф.нансавых мерапрыемстваў" (там-жа).

## VI. Апошнія пастановы партыі і ўраду і задачы парторганізацый

1. Улічыць урокі мінулага году і прыняць усе захады да забясьпечаньня неабходнай перабудовы збожжазагатоўчага апарату. Не пакладацца на самацёк. Збожжазагатоўкі і вываз збожжа трэба арганізаваць.

2. Не'дкладна і рашуча скончыць з опортуністычнай недаацэнкай неабходнасьці разгортваньня колгаснага гандлю. І ў гэтай справе вельмі шкодным зьяўляецца самацёк. Колгасны гандаль трэба організаваць.

3. Значнае скарачэньне дзяржаўнага мясазагатоўчага пляну дае магчымасьць і патрабуе організаваць максымальна чоткае выкананьне пляну жывёлазагатовак.

Скарыстаць апошнія пастановы ЦК і ўраду для:

а) паскарэньня тэмпаў сяўбы і арганізацыі ўборачнай кампаніі;

б) узмацненьня работы па стварэньні кармовай базы жывёлагадоўлі;

в) перавыкананьня пасеўных плянаў і палепшаньня якасьці ўборкі ураджаю.

4. Выключныя па сваёй адказнасьці задачы падаюць на зерневыя і жывёлагадоўчыя саўгасы. Ажыцьцяўленьне апошніх пастаноў партыі і ўраду патрабуе ад іх:

а) давядзеньня да канца барацьбы з безгаспадарнасьцю, барацьбы за ажыцьцяўленьне 6 гістарычных умоў т. Сталіна;

б) сконцэнтраваньня ўсёй увагі па пытаньнях павышэньня таварнасьці.

в) барацьбы з малейшымі праявамі буржуазнарвацкіх тэндэнцый. Саўгасы павінны паказаць колгасам прыклад выкананьня абавязацельстваў перад дзяржавай;

г) „Узорнага правядзеньня пасеўнай кампаніі ў саўгасах, правільнай організацыі злучкі, барацьбы за сілос, уважлівага

догляду за жывёлай, клопатаў аб яго нагуле" („Правда" ад 12-V), такога-ж узорнага правядзеньня ўборкі ўраджаю.

5. „Зусім неадкладнай задачай зьяўляецца тэрміновае давядзеньне пастаноў ЦК і СНК да кожнага колгасьніка і аднаасобніка („Известия" ад 14-V). Неабходна разгарнуць шырокую масавую растлумачальную работу і „ўзмацніць у многа разоў палітычную згуртаванасьць вакол партыі шырокіх колгасных мас" („Правда" ад 8-V).

6. Аказваць самы жорсткі адпор усякім спробам прыватніка спэкулянта, кулака нажыцца на разгортваньні колгаснага гандлю, затармазіць разгортваньне гаспадарчай самадзейнасьці мас, разлажыць колгасы знутры.

7. Задача, нарэшце, заключаецца ў тым, каб весьці неаслабную барацьбу супроць правых опортуністаў, якія зьяўляюцца рупарам кулацкіх настрояў у паасобных зьвеньнях партыі, і супроць „левых" перагібшчыкаў, якія граюць на руку кулаку" („Правда" ад 8-V).

## Літаратура для кіраўніка

1. Рэзолюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б):

а) рэзолюцыя па справаздачы ЦК УсеКП(б), разьдзел II і III;

б) рэзолюцыя аб колгасным руху і падняцьці сельскай гаспадаркі.

2. Сталін. „Пытаньні ленінізму":

а) „На хлебным фронце";

б) „Аб індустрыялізацыі краіны і правым ухіле";

в) „Аб правым ухіле";

г) „Год вялікага пералому";

д) „Да пытаньняў аграрнай палітыкі ў СССР";

е) „Галавакружэньне ад посьпехаў";

ж) „Адказ таварышам колгасьнікам";

з) Даклад на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б), разьдзел II, § § 4 і 5.

3. Рэзолюцыя XVII партконфэрэнцыі „Аб дырэктывах да складаньня другой пяцігодкі".

4. Рэзолюцыя XIV зьезду КП(б)Б па справаздачы. т. Шаранговіча, разьдзел 3.

5. Пастанова Кастрычніцкага пленуму ЦК УсеКП(б) 1931 г. „Аб разгортваньні савецкага гандлю і палепшаньні снабжэньня рабочых".

6. Матэрыялы лістападаўскага (1931 г.) пленума ЦК КП(б)Б.

7. Майская (1931 г.) адозва ЦК, СНК і Цэнтрасаюзу аб рабоцеспажывецкай коопэрацыі і разгортваньні савецкага гандлю.

8. Гатоўскі, „Савецкі гандаль на сучасным этапе („Большевик“, № 11 за 1931 г.).

9. Лейбман, „За далейшае разгортваньне савецкага гандлю („Большевик“, № 21 за 1931 г.).

(Даная распрацоўка вышла паасобным выданьнем. Там ёсьць рабочы матэрыял для слухачоў).

---

# ДЫРЭКТЫВЫ КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

## АБ ВЫДАНЬНІ ЖУРНАЛУ „ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ“

Дарагія таварышы!

З чэрвеня м-ца г. г. будзе рэгулярна выходзіць масавы паўтарадэкадны журнал „За ленінскую вучобу“, орган Культпропу ЦК КП(б)Б. Журнал „За ленінскую вучобу“ ставіць перад сабой наступныя задачы:

1. Весьці барацьбу за ўладаньне членамі і кандыдатамі партыі, комсамольцамі, шырокім актывам рабочых і колгасьнікаў марксысцка-ленінскай тэорыяй, за ўзбраеньне іх праз бальшавіцкую пропаганду гэтай тэорыяй, якая мобілізуе пролетарыят, колгаснае сялянства і „заўтрашніх колгасьнікаў“ на актыўны, сьвядомы ўдзел у пабудове бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва. Журнал „За ленінскую вучобу“ ставіць сваёй задачай дапамагчы выхоўваньню ў духу інтэрнацыянальнай солідарнасьці, ўладаньню культурай нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьмесьце, барацьбы за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі. Журнал „За ленінскую вучобу“ ставіць сваёй мэтай барацьбу супроць скажэньняў марксысцка-ленінскай тэорыі, супроць, ухілаў ад генэральнай лініі партыі і прымірэнцтва да іх. Супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі, „левага“ опортунізму, супроць троцкізму—перадавога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі і супроць працягваньня троцкісцкай контрабанды. Барацьба на два фронты, за рэалізацыю ўказаньняў правадыра партыі т. Сталіна, за популярызацыю і прасоўваньне дырэктыў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б да кожнага рабочага, колгасьніка і аднаасобніка—бедняка і серадняка, праз усю сыстэму бальшавіцкай пропаганды—вось задачы, якія ставіць перад сабой журнал.

2. Журнал „За ленінскую вучобу“ будзе абслугоўваць пропагандыстаў і слухачоў сярэдніх і нізавых зьвеньняў партасьветы, пропагандыстаў РК і ГК, парткому, ячэйкі, інструктароў па партасьвеце.

3. Аказваць дапамогу ў справе організацыі марксысцка-ленінскага выхаваньня членаў і кандыдатаў партыі, комсамолу і бес-

партыйнага актыву ў справе выхоўваньня з новага папаўненьня партыі стойкіх ленінцаў-бальшавікоў, у справе падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў ячэйкавага і раённага партыйнага і комсамольскага актыву, у прыватнасьці перападрыхтоўкі новых кадраў рабочых, саўгасных і колгасных пропагандыстаў.

Журнал „За ленінскую вучобу“ будзе дапамагаць цеснай увязцы партвучобы з задачамі соцбудаўніцтва, увязцы вучобы з барацьбой за прамфінплян на кожным прадпрыемстве, заводзе, новабудоўлі, саўгасе, колгасе, МТС, у цэху, брыгадзе, зьмене, перабудове сеткі партасьветы прымяняльна да нізавога вытворчага зьвяна; дыфэрэнцыраванаму падыходу ў партвучобе.

4. Асьвятляць пытаньні організацыі і мэтодыкі партыйнай пропаганды, вопыт пропагандысцкай работы і становішча вучобы ў раёнах, на прадпрыемствах, у колгасах, МТС, саўгасах, у ВНУ, ВТНУ, установах.

5. Абслугоўваць пропагандыстаў вучэбнымі плянамі, програмамі і іншымі мэтодычнымі спосабамі, справаздачнымі матэрыяламі па асноўных пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднага становішча, аглядамі літаратуры для сеткі партасьветы, консультацыямі па соцыялістычных і гаспадарчых пытаньнях.

6. Усе гэтыя задачы толькі тады будуць выкананы з посьпехам, калі культпропы, сакратары парткомаў, ячэек КП(б)Б і ЛКСМ, пропагандысты і слухачы прымуць актыўны ўдзел у рабоце журналу „За ленінскую вучобу“. Чакаем ад вас матэрыялаў аб вопыце работы па партыйнай, комсамольскай вучобе, аб пераходзе на летнія формы, аб становішчы пропкадраў, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў рабочых, колгасных і саўгасных пропагандыстаў, аб становішчы мэтодыкі і організацыі партыйнай і комсамольскай асьветы, аб разгортваньні соцпаборніцтва ў сыстэме партыйнай і комсамольскай асьветы, аб увязцы тэорыі з практыкай, аб завочнай вучобе. Чакаем вашы запатрабаваньні да журналу „За ленінскую вучобу“.

7. Першы нумар журналу шырока абгаварыце на занятках школ і гурткоў і ўсе заўвагі, якія будуць, пасылайце ў рэдакцыю.

8. Разгарніце масавую падпіску на журнал з такім разьлікам, каб кожны пропагандыст, кожная школа і гурток выпісвалі журнал „За ленінскую вучобу“ (цана паасобнаму нумару—20 кап., падпісная цана ў месяц—40 кап., квартал—1 руб. 20 кап., паўгода—2 руб. 40 кап., на год—4 руб. 80 кап.).

Падпіска прымаецца Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі і паштовымі аддзяленьнямі.

Разгарніце падпіску па колектывах, ячэйках, прадпрыемствах, саўгасах і колгасах.

Адрас рэдакцыі: Менск, вул. Чырвонаармейская. Культпроп ЦК КП(б)Б, пакой № 51.

Заг. Культпропу ЦК КП(б)Б Чарнушэвіч.

Заг. Сэктарам пропаганды Балабанаў.

---

## АБ ПАБУДОВЕ СЕТКІ ПАРТАСЬВЕТЫ

У дадатак да раней дадзенай дырэктывы аб бесьперапынным навучальным годзе, бесьперапынным комплектаваньні і пераходзе на летнія формы работы—Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе ў справе організацыі сеткі партасьветы і яе разгортваньні кіравацца наступным:

1. Асноўны ўпор у рабоце па кіраўніцтве работай сеткі партасьветы павінен быць зроблены на ідэолёгічную вытрыманасьць выкладаньня, на яго якасьць, на ліквідацыю абязьлічкі ў сыстэме партпропаганды, на 100-процанты ахоп усімі відамі партасьветы партыйнага і комсамольскага складу і ўцягненьне б/п рабочых і работніц, колгасьнікаў і колгасьніц у сыстэму політасьветнай сеткі, асабліва па наладжваньні сыстэматычнай бесьперабойнай работы ўсёй сыстэмы партыйнай пропаганды. Асобным яе зьвяном павінна праходзіць работа з новымі папаўненьнямі партыі—маладымі членамі і кандыдатамі КП(б)Б.

Паставіць перад паргорганізацыяй і пропагандыстамі кандыдацкіх школ наступную задачу: з школы, гуртка не павінен выйсьці слухач, ня ведаючы статуту і програмы партыі і Комінтэрну, гісторыі бальшавізму, задач 2-й пяцігодкі, стрыжнёвых пытаньняў політыкі партыі. Школа, гурток, пропагандыст, якія працуюць з новымі папаўненьнямі, павінны ведаць сваіх слухачоў, падрыхтаваць апошніх да выкананьня заданьняў ячэйкі і колектыву і дапамагчы ў справе вывучэньня асабістых якасьцяй кандыдата, у пераводзе яго ў члены КП(б)Б. Адсюль барацьба ня толькі за поўны ахоп новых папаўненьняў партасьветай, не дапускаючы ні ў якім разе падмены яе другімі відамі навучаньня,

але і асаблівая ўпорная сыстэматычная барацьба за якасьць партвыхаваўчай работы, сыстэматычная падрыхтоўка і перападрыхтоўка пропагандыстаў, якія працуюць з новымі папаўненьнямі, вывучэньне іх якасьці і здольнасьці працаваць над падрыхтоўкай новых членаў і кандыдатаў КП(б)Б.

2. На працягу летняга часу (май—верасень) трэба правесьці падрыхтоўку і перападрыхтоўку пропкадраў раёну. Асноўная задача ў гэтай галіне—скарыстаць усе магчымасьці для падрыхтоўкі рабочых, саўгасных і колгасных пропагандыстаў, працуючых непасрэдна ў цэху, брыгадзе і г. д.

3. Выдзеліць паказальныя школы і марксысцка-ленінскія гурткі на вядучым прадпрыемстве вашага раёну, а таксама ў буйнейшым саўгасе, колгасе, МТС, скарыстоўваючы вопыт работы паказальных школ і гурткоў у астатніх зьвеньнях партасьветы. Для гэтага работнікаў Культпропу РК і ГК (заг. культпропу, пропагандыстаў, заг. партгабінэтаў) прымацаваць да паказальных школ і гурткоў, і да школ і гурткоў іншых найбольш буйных па сваім значэньні прадпрыемстваў, за якія яны нясуць адказнасьць перад парткомамі. Увесьці ў сыстэму прапрацоўку асноўных задач, якія стаяць перад партыяй, парторганізацыяй раёну, прадпрыемства, саўгасу, колгасу і МТС. Работу мэтодычнага бюро арыентаваць на выкананьне ўказаных вышэй задач і ўвязку бальшавіцкай тэорыі з практыкай соцбудаўніцтва. Ліквідаваць недахопы па ўцягненьні работніц і колгасьніц у сыстэму партасьветнай сеткі.

4. Зьвярнуць увагу райкомаў і гаркомаў, што на пропагандысцкім фронце амаль што не разгорнута работа па ажыцьцяўленьні 6 умоў т. Сталіна, асабліва ў галіне ўраўнілаўкі і абязьлічкі. Гэта выражаецца ў тым, што адсутнічае своечасовае рэагаваньне на прарывы і недахопы ў рабоце сеткі. Адсутнічае гібкасьць у сэнсе своечасовай ліквідацыі адсеву. Адсутнічае і сталы дакладны ўлік ахопу партыйна-комсамольскай організацыі ўсімі відамі марксысцка-ленінскага выхаваньня па раёне. Неабходна паведамляць Культпроп ЦК на першае чысло кожнага месяца аб процантным ахопе членаў партыі, кандыдатаў і комсамолу паасобна па кожным відзе партасьветы: партшколы, марксысцка-ленінскія гурткі і т. д. Адсутнічае характарыстыка новых рабочых папаўненьняў па іх соцыяльным паходжаньні, агульнай і палітычнай пісьменнасьці, нацыянальнаму складу і т. д., а таксама недастатковая характарыстыка новых папаўненьняў партыі і ком-

самолу. Усё гэта гаворыць аб недахопах у сэнсе конкрэтнага і опэратыўнага кіраўніцтва на важнейшых вучастках марксысцка-ленінскага выхаваньня. Гэты недахоп трэба ліквідаваць, ажыцьцяўляючы 6 умоў т. Сталіна ва ўсёй сыстэме пропагандысцкай работы. Улік работы і праверка выкананьня павінны заняць адпаведнае іх значэньню месца.

5. Констатуючы, што соцспаборніцтва, як соцыялістычная форма працы і вучобы, разгорнуты недастаткова, формальна без падвядзеньня вынікаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж слухачамі, школамі, раёнамі, распрацаваць конкрэтныя мэрапрыемствы, выявіць зьвеньні, паасобных пропагандыстаў, слухачоў, неахопленых соцформамі вучобы, прыняць адпаведныя меры да сакратароў ячэек, якія ігноруюць соцспаборніцтва і ўдарніцтва, шырока апавясьціць аб гэтым праз друк і т. д.

6. У бліжэйшы час забясьпечыць глыбокую прапрацоўку дырэктыў СНК і ЦК КП(б)Б аб складаньні другой пяцігодкі БССР, увязаўшы гэта з матэрыяламі распрацоўкі пяцігодкі па горадзе, раёне, прадпрыемстве.

7. Культпроп адзначае, што пытаньне ўвязкі тэорыі з практыкай праводзіцца формальна па радзе вучасткаў партасьветнай сеткі. Заўважаны выпадкі, калі зрыў заняткаў мотывіруюць тым, што ёсьць больш важныя задачы, як пасеўкампанія, выкананьне прамфінпляну і т. д. З гэтымі опортуністычнымі настроямі трэба рашуча змагацца. Уся сыстэма марксысцка-ленінскай пропаганды павінна мобілізаваць працоўныя масы на выкананьне пасеўнай кампаніі, прамфінпляну, на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў. Неабходна ўзьняць вывучэньне сучасных задач і вывучэньне клясавай барацьбы на даным этапе на належную тэорэтычную вышыню.

8. Сетку партасьветы будаваць выходзячы з вытворча-бытавых умоў рабочых, колгасьнікаў, транспортных рабочых, будаўнікоў, сплаву, лесазагатовак торфазаводаў і т. д., з мэтаю набліжэньня сыстэмы партпропаганды да слухачоў. Для організацыі сталай сеткі партасьветы ў кожным раёне і магчымасьці пераходу слухачоў з ніжэйшых яе зьвеньняў у вышэйшыя, Культпроп ЦК КП(б)Б на падставе дырэктыў Культпропу ЦК УсеКП(б) прапануе пабудаваць апошнюю наступным чынам:

а) Пры ўсіх цэхавых, саўгасных, колгасных, МТС ячэйках організаваць партшколы, пачатковая ступень якіх разьлічана на тры месяцы і абавязкова для кандыдатаў КП(б)Б, і павышаная

ступень таксама 3 мес., разьлічаная на кандыдатаў і членаў КП(б)Б, скончыўшых першую ступень або якія маюць падрыхтоўку ў абёме кандыдацкай школы. Пры парткомах, партколектывах прадпрыемстваў, буйных цэхавых ячэйках, саўгасах, колгасах, МТС організоўваюцца 6-месячныя партшколы для ахопу членаў і кандыдатаў партыі, якія маюць падрыхтоўку ў аб'ёме партыйнай школы.

б) Пры парткомах буйных прамысловых прадпрыемстваў і райкомах організаць аднагадовую вячэрнюю СПШ, разьлічаную на падрыхтоўку партактыву. Як пры 6 месячнай партшколе, так і пры гадовай ВСПШ організаваць марксысцка-ленінскія гурткі.

в) Трохгадовыя вячэрнія комвузы, якія ёсьць у Менску, Гомелі, Віцебску, Магілеве, Бабруйску, Воршы, Рагачове, Лепелі, Барысаве—рэорганізаваць у 2-гадовыя, організаваць філіялы гэтых комвузаў на буйных прадпрыемствах (Гомсельмаш, Бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат, ф-ка штучнага валакна і на іншых буйных прадпрыемствах). Сьпіс філіялаў пасьля зацьверджаньня адпаведнымі РК або ГК прыслаць у Культпроп ЦК. Мазырскаму, Рэчыцкаму, Койданаўскаму, Жлобінскаму і Крычаўскаму Райкомам прыняць захады да організацыі 2-гадовых вячэрніх комвузаў к 1/І—1933 г.

9. Зараз-жа, выходзячы з вышэй указанага, організаваць сетку партасьветы, як стала функцыянуючую, пераглядзець контрольныя лічбы па партасьвеце на 1932 г., удакладніўшы іх і давёўшы да кожнай школы, ячэйкі. Скласьці контрольныя лічбы на 1933 г. не пазьней І/ІХ-1932 г.

Работа па перабудове сеткі, перагляду контрольных лічбаў на 1932 г. і давядзеньні іх да кожнай ячэйкі, школы павінна быць скончана да 15/VI-32 г. Разам з гэтым перагледзець склад пропагандыстаў, удасканаліць патрэбнасьць у пропагандысцкіх сілах, заняцца сталай падрыхтоўкай пропагандыстаў, уцягваючы таксама старых бальшавікоў у якасьці пропагандыстаў. Побач з стала існуючай сеткай партасьветы шырока скарыстаць, асабліва ў летні пэрыод, дапаможныя формы партвучобы, школы аднадёнкі, сэмінары ўдарнікаў, каротка-тэрміновыя курсы, пропсэмінары партактыву, гурткі бягучай політыкі, 5—10 дзённыя школы і т. д.

У пунктах, дзе немагчыма організаваць стала функцыянуючыя школы (тэрыторыяльная раскіданасьць партыйцаў і б/п актыву), скарыстаць школы перасоўкі.

10. Становішча з марксысцка-ленінскім выхаваньнем комсамольскіх організацый патрабуе таго, каб партшколы, партячэйкі гэтую работу ўзялі пад непасрэдны контроль і праверку работы. Прадуглелзьце сетку комсамольскай вучобы, падрыхтоўку пропагандыстаў для гэтай вучобы.

11. Згодна дырэктыў Культпропу ЦК УсеКП(б) забараніць на год організацыям перакідваць пазаштатных і штатных пропагандыстаў на іншую работу, вызваліўшы іх ад іншых партнагрузак.

12. Увесьці ў практыку выезды пропагандыстаў гарадзкіх прадпрыемстваў на вёскі па правядзеньні эпізодычных відаў партнавучаньня.

13. Пры ўсіх буйных прадпрыемствах, саўгасах і колгасах організаваць партгабінэты, сконцэнтраваўшы ў іх мэтодычную і консультацыйную дапамогу пропагандыстам.

Увесьці, як сыстэму, абавязковыя раённыя або куставыя пропсэмінары, якія праводзяць заняткі ня менш аднаго разу ў месяц (раённыя), перад распрацоўкай кожнай новай тэмы програмы (па кустах і на прадпрыемствах). Прыцягнуць на вызначаныя зараз эпізодычныя курсы партактыву ўсіх працуючых пропагандыстаў. Скарыстаць на пропрабоце выяжджаючы на раён партактыў (падрыхтаваўшы яго папярэдне праз консультацыю і сэмінарскую работу па асобных пропзаданьнях і мэтодах пропаганды).

Організаваць завочную вучобу партактыву, скарыстаць радыёкурсы, лектарскія групы і т. д.

Даць ня менш аднаго дня ў дэкаду для вучобы партактыву. Паставіць перад раённым і нізавым друкам задачу сыстэматычнай барацьбы за якасьць партпропаганды, за сталую вучобу парторганізацыі, асабліва новых яе папаўненьняў, барацьбы за падрыхтаванасьць пропагандыста, за ідэолёгічную вытрыманасьць выкладаньня і вытрыманы падручнік.

Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе організаваць пасьпяхова выкананьне гэтых дырэктыў.

Ліст прапрацаваць на бюро ГК і РК КП(б)Б, на нарада партактыву і пропагандыстаў.

Нам. заг. Культпропам ЦК КП(б)Б Залатухін.

Загадчык Сэктарам пропаганды Балабанаў.

## АБ РАЗГОРТВАНЬНІ МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАГА ВЫХАВАНЬНЯ НА ТОРФАРАСПРАЦОЎКАХ

Барацьба за 1,5 млн. *т* торфаздабычы ў 1932 г. па БССР— гэта барацьба ўсёй КП(б)Б за выкананьне народнагаспадарчага пляну, за пяцігодку ў 4 гады.

Выкананьне програмы торфаздабычы ў значнай меры будзе залежаць ад правільнай пастаноўкі бальшавіцкай пропаганды, ад правільнага абслугоўваньня культработай торфарабочых.

Культпроп ЦК КП(б)Б лічыць, што асноўным зьместам пропагандысцкай работы на торфараспрацоўках павінна стаць популярызацыя рашэньняў XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі, XIV зьезду КП(б)Б, сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК і апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб збожжа і жывёлазагатоўках, разгортваньні колгаснага гандлю і аб с./г. падатку, дырэктыў ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб складаньні другой пяцігодкі. Райкомы і ячэйкі КП(б)Б зараз-жа павінны разгарнуць работу па найбольш поўным ахопе партвыхаваўчай работай партыйных і комсамольскіх організацый і беспартыйных рабочых на торфараспрацоўках.

Асноўнай формай масавай сеткі партасьветы на торфараспрацоўках павінна быць пачатковая саўпартшкола, разьлічаная тэрмінам на 3—4 м-цы (програма пачатковай саўпартшколы прыкладаецца).

У працэсе работы школа павінна мобілізаваць слухачоў, а праз іх і астатнюю масу тарфянікаў на барацьбу за выкананьне і перавыкананьне плянаў здабычы торфу, на аснове правядзеньня шасьці гістарычных умоў т. Сталіна; падняць іх вытворчую актыўнасьць, выхаваць з іх перадавых ударнікаў і лепшых колгасьнікаў і падрыхтаваць лепшых ударнікаў да ўступленьня ў рады КП(б)Б.

Улічваючы асаблівыя ўмовы працы па торфаздабычы, Культпроп ЦК абавязвае парторганізацыі праявіць выключную гібкасьць у кіраўніцтве партвыхаваўчай работай тарфянікаў, прыстасоўваючы формы і мэтоды партасьветы да вытворчасьці, брыгады, разгортваючы марксысцка-ленінскія гурткі, гурткі бягучай політыкі, дні ўдарнай вучобы, школы аднаднеўкі, трохднеўкі і т. д. Райкомам неабходна сыстэматычна пасылаць на месцы работы пропагандыстаў.

У сыстэме партасьветы павінна быць разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж школамі, гурткамі і асобнымі слухачамі. Арганізуйце грамадзкі буксір для адстаючых зьвеньняў партвучобы і паасобных слухачоў, практыкуйце політбаі і іншыя формы разгортваньня актыўнай партасьветнай работы. Для аўладаньня тэхнікай тарфянай вытворчасьці і ўноў уведзеных мэханізмаў неабходна арганізаваць для торфарабочых тэхнічныя гурткі, тэхлекцыі і г. д.

Усёй сыстэме партасьветы неабходна мець на ўвазе, што клясавы вораг будзе імкнуцца пралезьці ў рабочую масу тарфянікаў і шкодзіць выкананьню програм торфаздабычы. Парткомы, пропагандысты і слухачы павінны праяўляць пільнасьць і змагацца з усякага роду вылазкамі клясавага ворага, даваць сваячасовы і рашучы адпор. Важнейшай задачай партшкол, гурткоў зьяўляецца выхаваньне членаў і канд. КП(б)Б у духу бальшавіцкай непрымірымасьці і прынцыповасьці ў барацьбе за генэральную лінію партыі на два фронты, супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левага" опортунізму і контррэволюцыйнага трацкізму, супроць прымірэнцтва і гнілога лібэралізму.

Баявымі лёзунгамі ўсёй работы партасьветы павінны быць:

100-процантны ахоп партыйнай і комсамольскай арганізацыі, асабліва кандыдатаў, а таксама беспартыйнага актыву партвучобай. Бальшавіцкая вытрыманасьць выкладаньня, выкананьне і перавыкананьне колькасных і якасных паказальнікаў пляну торфаздабычы, сваячасовая вывазка торфу, увязка тэорыі з практыкай.

Заг. Культпропам ЦК КП(б)Б **Чарнушэвіч.**

Заг. Сэктарам пропаганды Культпропу ЦК КП(б)Б **Балабанаў.**

---

## АБ РАЗГОРТВАНЬНІ МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАГА ВЫХАВАНЬНЯ НА ВОДНЫМ ТРАНСПОРЦЕ

Марксысцка-ленінскае выхаваньне на водным транспорце пастаўлена зусім нездавальняюча.

Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе ўсім парторганізацыям забясьпечыць сваячасовае разгортваньне марксысцка-ленінскага выхаваньня, мобілізуючы членаў і кандыдатаў партыі, а праз іх

усю водніцкую масу на выкананьне і перавыкананьне плянаў перавозак.

Паводле пляну рачны транспорт БССР у бягучым годзе павінен перавезьці 615 тыс. *т* грузу (54 млн. тона-кілёмэтраў).

Гэты плян перавозак павялічан больш чым на палову супроць мінулага году, але ён зусім рэальны. Патрабуецца толькі бальшавіцкая ўдарная работа па ліквідацыі ўсіх тых недахопаў, якія мелі месца ў мінулым годзе; па карэннай перабудове сыстэмы ўсёй работы ў напрамку практычнай рэалізацыі 6 умоў т. Сталіна, жорсткай барацьбы з усімі праяўленьнямі опортунізму, бюрократызму, коснасьці і непаваротлівасьці апарату, пры ўстанаўленьні цьвёрдага опэрацыйнага кіраўніцтва ўсімі зьвеньнямі гаспадаркі воднага транспорту.

Выкананьне програмы перавозак у значнай меры будзе залежыць ад правільнай пастаноўкі бальшавіцкай пропаганды, ад шырока разгорнутай палітычна-масавай работы сярод воднікаў. Лёзунгам кожнага водніка павінна быць—ніводнай аварыі, ніводнай паўторнасьці рамонту, за пролетарскую дысцыпліну працы, за выкананьне і перавыкананьне плянаў перавозак.

Сетка партасьветы ва ўмовах воднага транспорту павінна будавацца па прынцыпе пабудовы парторганізацый і вытворчасьці— берагавыя, суднавыя ячэйкі КП(б)Б, партгрупы і т. д.

Асноўнай формай партвучобы зьяўляецца 3-4 месячная партшкола. Акрамя гэтай партшколы, неабходна організаваць марксысцка-ленінскія гурткі і т. д. (програма трохмесячнай школы дасылаецца, скарыстайце мэтод распрацоўкі Культпропу ЦК КП(б)Б).

РК КП(б)Б павінен організаваць і паслаць на судны часовыя пропгрупы, якія-б дапамагалі ячэйкам разгарнуць марксысцка-ленінскае выхаваньне і партыйна-масавую работу. Для аўладаньня тэхнікай воднага транспорту неабходна організаваць тэхгурткі. Асноўным зьместам усёй пропагандысцкай і палітычна-масавай работы на водным транспорце павінна быць популярызацыя рашэньняў XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б і рашэньняў апошняга сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б, задач стаячых перад усёй прамысловасьцю і с.-г. СССР і БССР і ў прыватнасьці водным транспортам, популярызацыя асноў 2-й пяцігодкі, папулярызацыя рашэньняў ЦК УсеКП(б)Б аб збожжа і мясазагатоўках, аб разгортваньні колгаснага гандлю і аб с.-г.

падатку на 1932 г. Павесьці рашучую барацьбу з опортуністычнымі настроямі аб немагчымасьці ў летні час займацца вучобай.

Аб выніках і ходзе вучобы паведаміце Культпроп ЦК своечасова.

Нам. Заг. Культпропу ЦК Залатухін.

Заг. Сэктарам пропаганды Культпропу ЦК КП(б)Б Балабанаў.

---


РЭДКАЛЕГІЯ: ЗАЛАТУХІН, УЛАЗАЎ, СЯМЁНАЎ, ГРЫЦКЕВІЧ, КЛІМАЎ, ГУРВІЧ

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР: ЗАЛАТУХІН.

Адрас рэдакцыі: Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой № 51.

## ЗЬМЕСТ



### Вопыт месц



### Програмы і мэтод распрацоўкі



### Дырэктывы Культпропу ЦК КП(б)Б

